ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№11 (104) лістапад 2019 год
CATHOLICNEWS.BY

# У Віцебску прайшлі юбілейныя ўрачыстасці з нагоды 20-годдзя Віцебскай дыяцэзіі




Стар. 7

## Біскуп Алег Буткевіч 2 лістапада маліўся за ахвяраў сталінскіх рэпрэсій і II Сусветнай вайны



Стар. 9





Стар. 11

## Што не так са Швейцарыяй?

На пытанне нашай чытачкі адказвае афіцыял біскупскага суда кс. Аляксей Ляшко.

Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by



Каталіцкі ВЕСНІК
№11 (104)
лістапад 2019 г.

# У Японіі ажыятаж вакол візіту Святога Айца

**Папа Францішак у лістападзе адправіцца ў Японію. У сталіцы краіны так шмат тых, хто жадае сустрэцца са Святым Айцом, што Такійская архідыяцэзія абвясціла пра розыгрышы ўваходных білетаў.**



Лагатып папскага візіту ў Японію

Напрыклад, на св. Імшу ў Токіо, якую ўзначаліць Пантыфік, зможа прыйсці толькі 55 тыс. чалавек. Японскія вернікі павінны былі заявіць пра свой намер прыняць удзел у папскай Эўхарыстыі на спецыяльным сайце. Хоць тэрмін рэгістрацыі ўжо прайшоў, бясплатныя білеты яшчэ не разаслалі. Камітэт, які арганізоўвае сустрэчу з Францішкам у Нагасакі, паведаміў пра затрымку з выдачай білетаў праз патрабаванні бяспекі.

Папа Францішак прыбудзе ў Токіо 23 лістапада. У нядзелю Хрыста Валадара Сусвету ён адправіцца ў самы каталіцкі горад Японіі, у Нагасакі, дзе будзе цэлебраваць св. Імшу. Пасля гэтага ён наведае Хірасіму, дзе выступіць з прамовай у Мемарыяльным парку міру, а потым вернецца ў сталіцу, каб сустрэцца з вернікамі на стадыёне Tokyo Dome.

Папскі візіт у Японію адбудзецца пад дэвізам "Барані кожнае жыццё". Японія – адна з вядучых краін свету па абортах сярод падлеткаў: штогод тут памірае больш за 200 тыс. ненароджаных дзяцей. Праблемамі з'яўляюцца пашырэнне гвалту ў сям'і, значная колькасць самагубстваў і смерцяў ад перапрацоўкі ці перагрузак на працы. З'яўляецца праблемай таксама страх кантакту з навакольным светам.




Святы Айцец наведае Краіну ўзыходнага сонца ў 470-ю гадавіну прыбыцця сюды св. Францішка Ксаверыя, Апостала Японіі. Са 127 мільёнаў жыхароў каталікамі тут сябе называюць каля паўмільёна.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

## Галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка" прызначаны Грэміяльным канонікам Віцебскага Катэдральнага капітула

**12 лістапада ва ўспамін св. Язафата Кунцэвіча падчас урачыстасці святкавання 20-годдзя Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч абвясціў аб прызначэнні кс. Віктара Місевіча Грэміяльным канонікам Віцебскага Катэдральнага капітула.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Біскуп Алег адзначыў кс. Віктара гэтым тытулам, улічваючы яго заслугі перад Касцёлам у Віцебскай дыяцэзіі, а асабліва за працу па стварэнні і функцыянаванні газеты "Каталіцкі Веснік", працу ў Біскупскім судзе Віцебскай дыяцэзіі і на пасадзе канцлера курыі Віцебскай дыяцэзіі.

Маючы тытул каноніка Віцебскага Катэдральнага капітула, святар атрымлівае ўсе правы і абавязкі, прапісаныя ў Статутах Віцебскага Катэдральнага капітула. Выконваючы гэтае заданне, ён павінен кіравацца Статутамі, нормамі Кананічнага Права Каталіцкага Касцёла, а таксама распараджэннямі Біскупа Віцебскага.





*Супрацоўнікі рэдакцыі "Каталіцкага Весніка" шчыра віншуюць кс. Віктара і жадаюць, каб Усемагутны Бог блаславіў яго ў далейшым штодзённым жыцці, у служэнні і працы.*

## Святы Айцец абвясціў пра свой візіт у Паўднёвы Судан

**Папа Францішак абвясціў пра свой намер здзейсніць візіт у Паўднёвы Судан. Гэта адбылося падчас сустрэчы з вернікамі на малітве "Анёл Панскі", якая 9 лістапада 2019 г. прайшла ў Ватыкане.**


Папа падчас малітвы ў інтэнцыі міру ў Паўднёвым Судане і Конга

Скіроўваючы свае думкі да "дарагога народа Паўднёвага Судану", Пантыфік заўважыў, што плануе яго наведаць у наступным годзе.

"З яшчэ жывым успамінам пра духоўныя практыкаванні для ўладаў краіны, якія прайшлі ў Ватыкане ў красавіку, прагну зноў заклікаць усіх удзельнікаў нацыянальнага палітычнага працэсу ў духу сапраўднага братэрства шукаць тое, што яднае, і перамагаць тое, што раздзяляе", – сказаў ён.

Францішак нагадаў, што "народ Паўднёвага Судану шмат пакутаваў на працягу апошніх гадоў і з вялікай надзеяй чакае лепшай будучыні, асабліва беспаваротнага заканчэння канфліктаў і наступлення трывалага міру".

"Таму заклікаю адказных асобаў нястомна працягваць працаваць на карысць інклюзіўнага дыялогу ў пошуку згоды дзеля дабра краіны. Выказваю таксама спадзяванне на тое, што міжнародная супольнасць будзе суправаджаць Паўднёвы Судан на шляху нацыянальнага прымірэння. Запрашаю ўсіх вас памаліцца разам за гэту краіну, да якой я адчуваю асаблівую прывязанасць", – падкрэсліў Святы Айцец.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

## Арцыбіскуп Габар Пінтэр прызначаны Апостальскім нунцыем у Гандурасе




**Апостальская нунцыятура ў Рэспубліцы Беларусь паведамляе, што 12 лістапада 2019 года Яго Святасць Папа Францішак прызначыў Яго Эксцэленцыю Габара Пінтэра, тытулярнага арцыбіскупа Велбужцкага (Velebusdiensis), Апостальскім нунцыем у Гандурасе.**

З 13 мая 2016 года арцыбіскуп Габар Пінтэр з'яўляецца Апостальскім нунцыем у Рэспубліцы Беларусь і працягне сваю дыпламатычную місію ў нашай краіне прыблізна да сярэдзіны студзеня 2020 года.

*Catholic.by*

# Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў 30-годдзе біскупскага служэння

**10 лістапада Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне адзначыў 30-годдзе біскупскага служэння.**

**кс. Юрый Марціновіч**, *тэкст, grodnensis.by;*
**Андрэй Юхнік,** *фота*



Па словах самога іерарха, яго вялікім жаданнем было менавіта ў гэтай святыні падзякаваць Пану Богу за ўсё дабро, атрыманае за гэтыя трыццаць гадоў, і за ўсіх людзей, якіх Божы Провід паслаў на яго шляху.

14 лютага 1988 г. ксёндз-доктар Тадэвуш Кандрусевіч быў прызначаны пробашчам парафіі ў Гродне пасля 28 гадоў адсутнасці ў ёй святара. Аднак Бог меў свае планы, таму новаму пробашчу не было дадзена доўга служыць у гэтым касцёле і горадзе над Нёманам. 25 ліпеня 1989 г. ён быў прызначаны біскупам Мінскім і Апостальскім адміністратарам для католікаў лацінскага абраду ў Беларусі. А 28 кастрычніка ў Фарным касцёле ў Гродне адбыўся яго інгрэс як першага біскупа на гэтай зямлі з часоў ІІ Сусветнай вайны.

## Новы імпульс

Урачыстасць падзякі за трыццаць гадоў служэння арцыбіскупа Тадэвуша сабрала шмат жыхароў Гродна. Спачатку яны пабачылі кароткі архіўны відэаматэрыял пра інгрэс, падрыхтаваны раней кс. Казімірам Жылісам.

Затым пачалася ўрачыстая Імша. Усіх прысутных прывітаў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Ён адзначыў, што 1989 год стаў пачаткам вялікіх змен у Каталіцкім Касцёле ў Беларусі.

Пастыр Касцёла на Гродзеншчыне падкрэсліў, што арцыбіскуп Кандрусевіч унёс вялікі ўклад у адраджэнне каталіцкай веры на нашай зямлі і стаў "імпульсам" да таго, каб адважна ісці наперад, развівацца. Біскуп заахвоціў усіх прысутных атачыць сваімі малітвамі шаноўнага юбіляра, каб ён і далей у моцы духа вёў наш Касцёл і быў яго асновай.

Звяртаючыся да сабраных, арцыбіскуп Тадэвуш адзначыў, што з вялікай радасцю ў сэрцы стаіць у гэтым месцы, дзе валадарыць Маці Божая Кангрэгацкая на копіі абраза Salus populi Romani ("Збаўленне рымскага народа") з базылікі Маці Божай Вялікай у Рыме. "Будучы вучнем, я прыходзіў сюды, каб прасіць дапамогі ў вучобе. Потым разам з верным гродзенскім людам перажываў ганебнае рашэнне атэістычных уладаў пакінуць гэты касцёл без святара, што працягвалася ажно дваццаць восем доўгіх гадоў", – сказаў іерарх.

Старшыня беларускага епіскапату падкрэсліў, што лёс святыні быў яму неабыякавы, ён дзівіўся з вернікаў, якія, лежачы крыжам на падлозе, мужна баранілі касцёл, калі ўлады вырашылі зачыніць яго.

Іерарх дадаў, што дзякуючы вялікай актыўнасці вернікаў і іх велізарнаму клопату пра будучыню Касцёла сённяшняя катэдра захавалася і не падзяліла лёс Фары Вітаўта – найстарэйшай гродзенскай каталіцкай святыні XVI ст., якая 29 лістапада 1961 г. а другой гадзіне ночы была разбураная.

Праз дваццаць восем гадоў святыня, якая не мела свайго святара, атрымала маладога энергічнага душпастыра ў асобе сённяшняга арцыбіскупа. З гэтай хвіліны пачаўся паступовы працэс адраджэння. Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі адзначыў, што важным крокам у гэтым працэсе быў візіт у гродзенскі касцёл 5 верасня 1988 г. прымаса Польшчы кардынала Юзафа Глемпа.

## Цяжкія пачаткі

Як падкрэсліў іерарх, візіт у Беларусь прымаса Польшчы, каторы адбыўся на запрашэнне праваслаўнага Мітрапаліта Філарэта, звеставаў надыход новых часоў, што хутка сталася. Бо менш чым праз год з часу візіту прыйшла з Ватыкана радасная навіна, што Беларусь атрымала свайго пастыра – першага біскупа з часоў Другой сусветнай вайны.

"Трэба было ісці ў невядомае, стварыць касцельныя структуры, адкрываць адабраныя раней касцёлы, шукаць святароў і сясцёр законных, клапаціцца пра выданне рэлігійнай літаратуры і г.д. Часам трэба было станавіцца быццам "бульдозерам", каб расчышчаць пакінутыя атэістычным рэжымам заторы на дарозе для Хрыста да сэрца чалавека", – сказаў іерарх. Ён падкрэсліў, што сёння, калі адзначае 30-годдзе біскупскай сакры, дзякуе найперш Богу, Найсвяцейшай Маці і св. Міхалу Арханёлу за апеку і дапамогу ў выкананні служэння наступніка апосталаў у Беларусі і Расіі. Арцыбіскуп дадаў, што дзякуе ўсім, хто дапамагаў яму ў гэты час.

Па яго словах, сёння Касцёл у Беларусі і ў Расіі моцна стаіць на сваіх нагах, хоць праблем хапае. Іерарх заўважыў, што сярод гэтых праблем не вырашаная да канца прававая сітуацыя Касцёла ў Беларусі, бо няма канкардата і нават дамовы паміж Канферэнцыяй Біскупаў і дзяржавай, што палегчыла б дзейнасць Касцёла ў нашай краіне. Акрамя яшчэ недастаткова развітай матэрыяльнай базы, недахопу касцёлаў, святароў, законнікаў і законніц, добра інфармаваных свецкіх вернікаў, вялікай пагрозай ён назваў дэградацыю духоўных каштоўнасцяў.

## Змагацца за свабоду

Таму, адзначыў арцыбіскуп, Касцёл, нягледзячы на ўсё, быў, ёсць і заўсёды будзе вартаўніком і вестуном веры. "За веру трэба было змагацца ў часы ваяўнічага атэізму. І хоць гэта гучыць парадаксальна, але ў часы свабоды рэлігіі гэтую барацьбу трэба працягваць. Свабода не толькі дадзена, але і з'яўляецца заданнем", – сказаў ён. Усіх прысутных арцыбіскуп заклікаў быць вернымі Богу і супрацьстаяць тым выклікам сучаснага свету, якія вядуць да дэградацыі чалавецтва і сям'і. "Будзем памятаць, Каму мы паверылі. Будзем верныя Езусу – адзінаму Збаўцу свету, Які прыйшоў агонь кінуць на зямлю і хоча, каб ён разгарэўся. Гэта агонь Духа Святога. Няхай ад яго новай іскры, трыццаць гадоў таму кінутай Божым Провідам на нашу змучаную пераследам зямлю, запалае моцнае полымя веры, якая вядзе да збаўлення", – сказаў Мітрапаліт.

На заканчэнне ўрачыстасці ў адрас юбіляра прагучала шмат добрых слоў і пажаданняў. Самыя малодшыя, дзеці, жадалі іерарху быць заўсёды радасным, старэйшыя зычылі маладога запалу, які яму заўсёды спадарожнічае.

Пробашч катэдральнай парафіі кс. канонік Ян Кучынскі перадаў арцыбіскупу ў падарунак новы наручны гадзіннік, цыферблат якога паўтарае выяву вежавага гадзінніка касцёла св. Францішка Ксаверыя ў Гродне, а на адваротным баку выгравіравана ўжо знішчаная святыня Найсвяцейшай Панны Марыі – Фара Вітаўта.

Гэтая цудоўная ўрачыстасць стала добрай нагодай выказаць Богу ўдзячнасць за ўсе ласкі, спасланыя на горад Гродна і ўсю нашу краіну, за адраджэнне веры ў сэрцах людзей і за гэты прыгожы, жывы і найперш усё яшчэ малады Касцёл у Беларусі.



# Біскуп Яшэўскі прадставіў Касцёл на кангрэсе “Беларуская мова – галоўная гісторыка-культурная каштоўнасць нацыі і дзяржавы”



**У Мінску прайшоў Першы міжнародны навуковы кангрэс “Беларуская мова – галоўная гісторыка-культурная каштоўнасць нацыі і дзяржавы”, прымеркаваны да 90-годдзя Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа.**

**Анастасія Грышан**, *тэкст, Catholic.by*

Ва ўрачыстым пасяджэнні і адкрыцці кангрэсу, што адбылося 31 кастрычніка ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, па бласлаўленні Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча прынялі ўдзел прадстаўнікі Каталіцкага Касцёла дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB і кс. канонік Ян Крэміс. На адкрыцці навуковага форуму былі шырока прадстаўленыя органы дзяржаўнага кіравання Беларусі, замежныя дэлегацыі, навуковая і творчая грамадскасць нашай Айчыны.

Прагучалі прывітальныя словы ад прадстаўнікоў розных органаў дзяржаўнага кіравання, ад кіраўніцтва інстытутаў Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, ад замежных гасцей, ад кіраўніцтва вышэйшых навучальных установ, ад розных арганізацый краіны, а таксама ад прадстаўнікоў Беларускай Праваслаўнай Царквы і Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі.

У сваім прывітальным слове біскуп Аляксандр Яшэўскі засяродзіў увагу на шматлікіх дасягненнях Рыма-Каталіцкага Касцёла, які паслядоўна служыць пашырэнню Божага слова на беларускай мове дзеля духоўнага дабра Касцёла і нашай Айчыны.

Іерарх адзначыў, што менавіта мова “з’яўляецца неаспрэчным і самым важным крытэрыем нацыянальнай прыналежнасці”, “а той факт, ці размаўляе чалавек на роднай мове і на якім узроўні размаўляе, – відавочная ацэнка для вызначэння ступені страты нацыянальнай свядомасці”.

Біскуп нагадаў, што, “пачынаючы ад беларускіх святароў-адраджэнцаў, родная мова заўсёды была прыярытэтнаю і ў жыцці Каталіцкага Касцёла”.

“Сёлета Каталіцкі Касцёл у Беларусі адзначае 30-годдзе свайго адраджэння, і практычна з самага пачатку ў сваёй літургічнай, пастырскай і евангелізацыйнай дзейнасці ён клапаціўся пра беларускую мову”, – сказаў іерарх.

Ён падкрэсліў, што на самым пачатку адраджэння намаганнямі тагачаснага біскупа Тадэвуша Кандрусевіча было выдадзена 50 тысяч асобнікаў “Парадку святой Імшы” і 90 тысяч асобнікаў “Каталіцкага Катэхізісу” на беларускай мове. Такім чынам, **“атрыманая свабода веравызнання стала імпульсам для развіцця рэлігійнай лексікі беларускай мовы”.**

Па словах іерарха, нягледзячы на складанасці з адсутнасцю рэлігійнай тэрміналогіі на беларускай мове, Касцёл за гэтыя гады “не толькі імкнуўся захаваць беларускую мову ў святынях, але рабіў усё магчымае, каб развіваць яе, і заахвочваў не пераставаць карыстацца роднаю моваю”. Гэтаму спрыялі не толькі выданні перакладзеных літургічных кніг, але і “больш за 200 найменняў гісторыка-рэлігійнай, мастацкай, навукова-папулярнай літаратуры, кніг для дзяцей і моладзі на роднай мове, падручнікаў па вывучэнні рэлігіі, падрыхтаваных каталіцкім выдавецтвам “Pro Christo”.

Важкі ўнёсак у развіццё і захаванне мовы зрабілі таксама каталіцкія часопісы, нагадаў біскуп. У апошні час на беларускай мове выдадзена поўная версія Новага Запавету.

“За гэтыя тры дзесяцігоддзі Касцёл прыкладваў усе намаганні, каб захаваць і развіваць родную мову. І будзе рабіць гэта надалей. Бо мова – дар Духа Святога, і занядбоўваць гэты дар – вялікі грэх”, – звярнуў увагу іерарх.

Віншуючы супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства і ўсіх удзельнікаў кангрэсу з юбілеем заснавання гэтай установы і жадаючы далейшых поспехаў, біскуп падарыў дырэктару інстытута Ігару Капылову апошняе дасягненне Касцёла – выданне “Новага Запавету для дзяцей і моладзі”.

Падчас інаўгурацыі таксама адбылося ўшанаванне ветэранаў інстытута і ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу навукова-даследчых работ у галіне мовазнаўства “Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына” сярод навучэнцаў сярэдніх, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў краіны.

У другой палове дня пачалося пленарнае пасяджэнне. З падрабязнай праграмай кангрэсу можна пазнаёміцца на сайце інстытута.



# На адну парафію ў Беларусі стала больш

**1 лістапада пасведчанне пра дзяржаўную рэгістрацыю атрымала новая парафія Бласлаўлёнай Мар’яны Бярнацкай у Гродне, паведамляе grodnensis.by.**

Дакумент быў сімвалічна падпісаны ва ўрачыстасць Усіх Святых намеснікам старшыні Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Віктарам Лісковічам. Новая парафія ахоплівае мікрараён горада Гродна Баранавічы.

Апякункай парафіі абрана бласлаўлёная Мар’яна Бярнацкая, якая недалёка ад гэтага мікрараёна, на фартах за вёскай Навумавічы, разам з сынам і 48 жыхарамі Ліпска была расстраляна фашыстамі 13 ліпеня 1943 г.



Сімвалічна, што новая парафія у горадзе над Нёманам была заснавана праз дваццаць гадоў з моманту беатыфікацыі заступніцы – 13 чэрвеня 1999 г. у Варшаве. Яе беатыфікаваў Святы Айцец Ян Павел II разам з іншымі мучанікамі Другой сусветнай вайны.

Згодна з рашэннем біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча, пробашчам новай парафіі прызначаны кс. Юрый Марціновіч – прэссакратар Гродзенскай курыі, сакратар біскупа Гродзенскага і адказны за сродкі масавай інфармацыі Гродзенскай дыяцэзіі.

# Залатыя бабулі

У малітвах за памерлых я заўсёды ўспамінаю сваю бабулю, але сёлета напярэдадні Дня ўспаміну ўсіх памерлых прыгадаліся словы святара на яе пахаванні. “Яна, – сказаў ксёндз, – разам з Аленай Францаўнай значна паспрыялі таму, каб у Шуміліне існаваў касцёл”. Гэтыя ўспаміны прымусілі бліжэй пазнаёміцца з “саратніцай” маёй бабулі. Што ж гэта за моцны, уплывовы чалавек, дзейнасць якога так высока ацаніў святар?

Сціплая маленькая жанчынка сталага ўзросту, на першы выгляд, зусім не змагар. Але яе ведаюць усе ў парафіі Маці Божай Фацімскай у Шуміліне – Алена Францаўна Цішкевіч. Няма таго дня, каб мы не бачылі з ранку ці ўвечары, як гэты чалавек спяшаецца ў касцёл. З драўляным кіёчкам яна выглядае сапраўдным пілігрымам, які шпарка для свайго ўзросту крочыць да Пана Бога ў спёку ці завіруху, дождж ці мароз.

На Шумілінщчыну Алена Францаўна пераехала каля трыццаці гадоў таму назад з Гомельскай вобласці (Петрыкаўскі раён, в. Брынёў), дзе ўсё сваё жыццё працавала ў мясцовым саўгасе. Яе продкі паходзяць з Прусіі і Польшчы. Як кажа сама спадарыня Алена, выхаванне ў Богу, штодзённая малітва і моцная вера фармаваліся з дзяцінства. Усе справы, пачынаючы ад гаспадарчых і заканчваючы пагрозамі жыццю ў ваенны час, вырашаліся з Богам. Напрыклад, уся сям’я з абразом магла прайсці з супольнай малітвай вакол роднага дома з просьбай пра абарону ці ў іншых інтэнцыях.


Алена Цішкевіч

У савецкія часы пераследу касцёла і знішчэння рэлігійнага жыцця ў Беларусі спадарыня Алена наведвала Пінск, дзе з 1954 года практычна бязззменна служыў у францішканскам храме пробашчам Казімір Свёнтак. Менавіта ён удзяліў Алене Францаўне з мужам сакрамант шлюбу, ахрысціў яе дзетак.

Аднойчы наш першы беларускі кардынал, убачыўшы ахвяру жанчыны, спытаў у яе: “Po co tak dużo wkładasz?” Уяўляю, як шчыра яна ахвяравала, хутчэй за ўсё, невялікія грошы, маючы патрэбу і ўсведамленне неабходнасці падтрымліваць касцёл, рабіць тое, што ў яе магчымасцях.

Прыехаўшы ў Шуміліна, дзе не было касцёла, спадарыня Алена кожную нядзелю і ў святочныя дні наведвала Імшы у Мікалаёве, якія адпраўляў кс. Мечыслаў. Гэта лёгка напісаць “наведвала”, але цяжка нават уявіць, што праз нязручнасці транспартнага раскладу найчасцей яе зваротны шлях быў часткова ці цалкам пешым! Адлегласць у трыццаць кіламетраў не спыняла яе прагненне сустрэцца с Богам, як яна сама кажа: “Ішла сама-самусенька”.

І вось аднойчы кс. Мечыслаў спытаў: “А дзе наша гераіня?” І даведаўся ад спадарыні Алены, што Шуміліна “патрабуе” святара і чакае арганізацыю парафіі. У адну з нядзель, калі Алена Францаўна наведвала касцёл Св. Барбары ў Віцебску (дзякуй Богу, з’явілася такая магчымасць), у чарзе на споведзь яна пазнаёмілася з маёй бабуляй Нінай Станіславаўнай Кандратовіч. І гэтыя адважныя бабулі пачалі дзейнічаць. З цягам часу спадарыня Алена гасцінна расчыніла дзверы свайго дома, у якім пачалі збірацца на Імшу каталікі, прыязджаў ксёндз. Далей эстафету гасціннага хатняга касцёла пераняла сям’я Орпікаў.

Ці мелі гэтыя бабулі ўласныя праблемы – сямейныя, матэрыяльныя, медыцынскія? Безумоўна, мелі, але было тое, што стала больш значным для іх, тое, што матывавала іх хадзіць па дамах каталікаў і збіраць подпісы, каб дазволілі будаўніцтва касцёла, прымаць у свае сціплыя дамы вернікаў і святароў на Імшы і катэхезы, самаааддана працаваць на будаўніцтве, ахвяроўваць сябе дзеля адраджэння касцёла.

Ва ўтульных цёплых касцёлах “крокавай дасяжнасці” з дзіцячымі гульнявымі, катэхетычнымі заламі, прыгожым убранствам ці здольныя мы ацаніць іх сапраўдны подзвіг? Хацелася б спадзявацца, што так…

Сёння Алена Францаўна – паважаная парафіянка, штодзённа наведвае Імшу, чытае і нават канспектуе Біблію, евангелізуе, цікавіцца і ўдзельнічае ў касцельных мерапрыемствах і супольнасцях. Яна багатая на ўнукаў і праўнукаў. Адна з унучак спадарыні Алены стала сястрой законнай у даміканскім ордэне.

14 снежня 2019 года Алена Францаўна Цішкевіч адзначыць 82-і дзень свайго нараджэння. Звонку сціплая, маленькая, добрая бабулечка, але яна яшчэ і сапраўдны ваяр Хрыста, Якому служыць усё жыццё. Мы дзякуем Богу за такі прыклад нязломнай, моцнай веры сярод нас і просім для спадарыні Алены здароўя!

Безумоўна, шмат хто з чытачоў змог бы расказаць пра сваіх бабуль і дзядуль, верных Богу ўсё сваё жыццё. Таму зрабіце гэта ў сваіх парафіях, шануйце іх, любіце і беражыце як бясцэнны скарб нашага Касцёла ў Беларусі!

Хацелася б прыгадаць словы кардынала Казіміра Свёнтака: “Славутыя бабулі захавалі веру ў Бога ў перыяд пераследу, калі не было касцёлаў і святароў. Менавіта ім трэба дзякаваць, што вера не знікла бясследна з гэтых моцна прыгнечаных тэрыторый. Колькі выцерпелі бабулі, ахвяравалі і перажылі нягодаў, будучы залічанымі да “ізгояў” грамадства! І, нягледзячы на тое, што яны не пралілі крыві за веру, за Касцёл, усё ж іх жыццё мела мучаніцкі характар. Бабулі, якія захавалі веру, сапраўдныя героі, толькі ім ніхто не паставіць помнікаў, іх прозвішчы адыдуць у нябыт. Хвала і пашана вам, дарагія, любыя, залатыя бабулі! Я ахвярую высокае прызнанне “Сведка веры” бабулям маёй краіны, якія змаглі захаваць веру ў гады пераследу, тым самым не даўшы памерці Касцёлу”.

Нізкі паклон Вам, Алена Францаўна, і ўсім залатым бабулям і дзядулям Беларусі!

*Іна Карпушэнка*

# Моя исповедь



**На протяжении жизни мы совершаем разные поступки: добрые, благородные или даже героические, а также и такие, за которые нас осуждают люди, наказывает государство и уж тем более казним себя сами.**

**А. Т.**, *г. Поставы*

Стоя уже “на краю”, думаю, многие, если не каждый, подводят черту, анализируют прожитую жизнь. Мне уже немало лет, в жизни было всё: счастье, радость, любовь и рядом безысходность, комплексы, предательство. В молодости хотелось иметь многое, но не всегда путь к желанному был честным. А всего-то надо было жить по Божьим правилам: “не убий, не обмани, не укради...”

Поженились мы с мужем по любви. Сразу же один за одним родила троих деток, а ведь могла бы и больше, прости, Господи! Жили трудно, сначала снимали жильё, потом получили 4-комнатную квартиру. Денег на мебель не было, всё приобретали в кредит, помощи от родителей не имели. А хотелось, чтобы детки ни в чём не нуждались.

Однажды в соседнем доме на лестничной площадке увидела красивые детские саночки и так захотелось, чтобы и у моих малышей были такие же, чтобы можно было отвозить их в садик, а не таскать на руках. В тот момент я не посмела взять чужое, ведь это грех, да и стыдно, если соседи увидят – позор на весь наш маленький городок. Но гадкие мысли не давали покоя. Я попросила мужа, чтобы он ночью сходил в тот дом и “одолжил” саночки, благо в те времена домофонов ещё не было. Муж мою “задумку” не одобрил и категорически отказался от подобного шага. А через некоторое время, придя с работы во вторую смену поздно вечером сильно выпившим и не выдержав моих упрёков и слёз, пошёл и “одолжил” эти саночки.

Но не долго наши дети радовались им. Кто-то, а возможно и сами хозяева, прошли по домам нашего микрорайона и отыскали на лестничной площадке свою пропажу. Надеюсь, что Господь распорядился именно так. Я даже не сожалела и была рада, что таким образом справедливость восторжествовала. Деткам нашим пришлось в срочном порядке купить похожие саночки, объяснив, что старые сломались. Позже, когда они подросли и пошли в школу, я всё им рассказала в надежде, что они подобное делать не будут.

Вскоре мы с семьёй переехали в другой город, но меня всегда мучила совесть и мысль, почему я не нашла в себе сил и мужества отыскать этих людей и попросить у них прощения за свой проступок. Через несколько лет со слезами на глазах я пришла в храм и исповедалась в своём грехе. Священник наказал мне молиться за обиженных мной людей, а также помогать по возможности всем нуждающимся, нищим и больным, что я и делаю.

Надеюсь, что Господь меня простил, дети меня поняли. А судить вам, дорогие читатели нашей газеты. Спасибо, что выслушали мою исповедь.

# Біскуп Алег Буткевіч прыняў удзел ва ўрачыстасці біскупскай сакры ў Кіеве

**9 лістапада ў Кіеве адбылася біскупская сакра ксяндза Аляксандра Язлавецкага, самага маладога рыма-каталіцкага біскупа ў свеце, якога 18 верасня 2019 года Святы Айцец Францішак прызначыў дапаможным біскупам Кіева-Жытомірскай дыяцэзіі. Пасвячэнне адбылося ў катэдральным касцёле Святога Аляксандра.**

Галоўным цэлебрантам урачыстасці быў арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці, Апостальскі Нунцый ва Украіне, а супольнымі кансэкратарамі – біскуп Віталь Крывіцкі, ардынарый Кіева-Жытомірскай дыяцэзіі, і біскуп Леон Дубраўскі, ардынарый Камянец-Падольскай дыяцэзіі. Дарэчы біскуп Аляксандр Язлавецкі з'яўляецца святаром Камянец-Падольскай дыяцэзіі.

На сваім гербе біскуп Аляксандр змясціў цытату святога Томаса Мора: "Найперш слуга Божы".

Біскуп Аляксандр Язлавецкі нарадзіўся 2 сакавіка 1979 года ў Шаргарадзе Вінніцкай вобласці. Скончыў Духоўную семінарыю ў Гарадку, 26 чэрвеня 2004 года атрымаў святарскае пасвячэнне. Душпастырскую паслугу нёс у в. Мурафа Харкаўскай вобласці і ў семінарыі ў Гарадку. У 2006 годзе быў накіраваны на вучобу ў Рым, у Папскі Латэранскі ўніверсітэт, дзе ў 2013 годзе атрымаў ступень доктара кананічнага права. Пасля вяртання ва Украіну выконваў абавязкі віцэ-рэктара і эканома Духоўнай семінарыі ў Гарадку. У 2014 годзе быў прызначаны рэктарам той самай семінарыі, а з 2018 года быў прызначаны канцлерам курыі Кіева-Жытомірскай дыяцэзіі.

Цікавым фактам з'яўляецца тое, што біскуп Аляксандр усяго на тры месяцы старэйшы за самага маладога каталіцкага біскупа ў свеце, якім з'яўляецца біскуп Украінскай грэка-каталіцкай Царквы Пётр Лаза, які нарадзіўся 3 чэрвеня 1979 года. Цікава таксама і тое, што трэці самы малады біскуп у свеце – таксама ўкраінец. Гэта Эдвард Кава, дапаможны біскуп Львоўскай дыяцэзіі, які нарадзіўся 17 красавіка 1978 года.

На ўрачыстасці біскупскай сакры прысутнічалі святары Кіева-Жытомірскай, Камянец-Падольскай і іншых дыяцэзій ва Украіне, настаяцелі мужчынскіх і жаночых кангрэгацый і супольнасцей, прадстаўнікі Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, Праваслаўнай Царквы Украіны, біскупы і святары з-за мяжы (Польшчы, Італіі, Швейцарыі), а таксама прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу, акрэдытаваныя ва Украіне.

Касцёл у Беларусі прадстаўляў біскуп Алег Буткевіч, ардынарый Віцебскай дыяцэзіі. Звяртаючыся да новапасвечанага біскупа, Віцебскі ардынарый сказаў, што перш за ўсё ён радуецца разам з усім Касцёлам ва Украіне, які атрымаў яшчэ аднаго біскупа. А таксама пажадаў сабрату трываласці на нялёгкай дарозе біскупскага служэння, моцы Божага духа. Каб памятаў, што на гэтай дарозе ён не адзін, што заўсёды яму будуць спадарожнічаць і Божая ласка, і Божая моц, і заступніцтва Багародзіцы, а таксама радасці і энтузіязм у біскупскай паслузе.

*Падрыхтаваў*
***кс. Аляксей Ляшко***
*Фота credo.pro*





біскуп Аляксандр Язлавецкі



# Сустрэча міністрантаў

**Канікулы, асабліва восеньскія, – добры час, каб адпачыць, але і каб задумацца над жыццёвымі пытаннямі. Праблемы жыццёвага выбару, паклікання, хобі і будучай прафесіі сталі асноўным лейтматывам сустрэчы хлопцаў, якія сабраліся ў Паставах 5, 6 і 7 лістапада.**

**кс. Аляксандр Грыцкевіч**, *тэкст;*
**кс. Мікалай Ціхановіч, кс. Аляксандр Грыцкевіч**, *фота*

З бласлаўлення біскупа Віцебскага Алега Буткевіча спатканне праводзілі святары Мікалай Ціхановіч з Глыбокага і Аляксандр Грыцкевіч з Верхнядзвінска. Тэма чарговай сустрэчы – "Быць разам у Пану". Тры дні своеасаблівых духоўных рэкалекцый былі напоўненыя малітвай і разважаннямі. Ксёндз Аляксандр прадставіў канферэнцыю на тэму "Быць разам у Пану – значыць, быць шчаслівым", якая выклікала цікавы дыялог са святарамі. Ксёндз Мікалай правёў біблійнае спатканне, дзе заахвоціў мець Святое Пісанне ў сябе дома і чэрпаць з Біблії жыццёвую мудрасць.

Час сустрэчы быў напоўнены не толькі інтэлектуальнымі заняткамі, але і рознымі гульнямі, і магчымасцю паразмаўляць з каталіцкай моладдзю і святарамі. Мужчынскую кампанію традыцыйна дапаўнялі дзяўчаты з пастаўскай парафіі Святога Антонія. Хлопцы ў знак удзячнасці за іхнюю дапамогу на кухні зладзілі вясёлы вечар з музыкай, грылем і сімвалічным феерверкам.

Дзякуй вялікі святарам, якія накіравалі сваіх міністрантаў на восеньскае спатканне! Мы спадзяёмся, што наступныя сустрэчы будуць мець значна большы водгук у нашага духавенства. Бо зразумелая рэч, што пакліканні да Божай службы не валяцца кожны год з дрэва, як восеньскія яблыкі, а нараджаюцца і распазнаюцца падчас жывой камунікацыі ў духоўных асяродках рэкалекцый, дыялогу моладзі, пілігрымках.

# У Віцебску прайшлі юбілейныя ўрачыстасці з нагоды 20-годдзя Віцебскай дыяцэзіі

**12 лістапада Каталіцкі Касцёл ушаноўвае памяць аднаго з мучанікаў, што аддаў жыццё ў інтэнцыі, за якую ахвяраваў наш Збаўца Езус Хрыстус. Святы Язафат Кунцэвіч – галоўны апякун Віцебскай дыяцэзіі – аддаў сваё жыццё мучаніцкай смерцю ў 1623 годзе за тое, каб Касцёл быў адзіны, каб мы ўсе былі адно.**

■ **Марына Сінкевіч**, *фота і тэкст*

Менавіта ў гэты дзень на ўрачыстую Імшу ў Віцебскай катэдры Езуса Міласэрнага сабраліся святары і законныя сёстры з дыяцэзіі-юбіляра, а таксама госці з іншых куткоў нашай краіны, сярод якіх былі дапаможныя біскупы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі, а таксама вернікі з Віцебска.

На самым пачатку словы прывітання прамовіў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч: "Сёння, дзякуючы Богу за яго асобу і апеку над нашай дыяцэзіяй, мы дзякуем за дваццаць гадоў існавання Віцебскай дыяцэзіі. Час па мерках касмічных невялікі. Дваццаць гадоў для чалавека – узрост найбольшай магчымасці зрабіць штосьці добрае, гэта маладосць і росквіт. Мы дзякуем Богу за гэты час, калі Віцебская дыяцэзія ўзрасла і аднавілася пасля страшнага часу камуністычнай атэістычнай ідэалогіі".

Біскуп Алег ахвяраваў Эўхарыстыю ў інтэнцыі ўсёй дыяцэзіі, за ўсіх тых, хто ствярае нашу адну вялікую сям'ю Віцебскай дыяцэзіі, Віцебскага Каталіцкага Касцёла.

Тэме адзінства Касцёла была прысвечаная і гамілія. Шмат прыкладаў прагучала на гэту тэму, і асабліва было адзначана, што з кожным годам усё больш праваслаўных пастыраў разумеюць патрэбу трымацца Святога Пятра. У базіліцы Апостала Пятра ў Рыме можна ўбачыць і праваслаўных іерархаў, якія моляцца ў цішыні, якія адкрылі, што без св. Пятра нельга. Бо менавіта апосталу Пятру Езус даў ключы ад Царства Нябеснага, і ён з'яўляецца гарантам еднасці Касцёла. Калі Касцёл павінен будзе сабрацца, а Езус моліцца, каб усе былі адно, як напісана ў Евангеллі, то дзе мы сустрэнемся? Каля Пятра. І ўсе гэта добра разумеюць: і пратэстанты, і праваслаўныя.

Юбілей дыяцэзіі адзначаўся на працягу года рознымі мерапрыемствамі і ўрачыстасцямі, але гэтай датай было вырашана завершыць святкаванне. На заканчэнне Імшы Пастыр дыяцэзіі зачытаў дэкрэты аб прысваенні кс. Яцэку Хутману, пробашчу парафіі ў Камаях, годнасці Ганаровага каноніка і кс. Віктару Місевічу, канцлеру Віцебскай дыяцэзіі і галоўнаму рэдактару "Каталіцкага Весніка" – годнасці Грэміяльнага каноніка, а таксама ўручыў Ганаровыя граматы вернікам, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё дыяцэзіі.





# адбылася ў Паставах





# Каляндар на снежань

**У літургічным каляндары 1 снежня распачынаецца час Адвэнту.**



**Адвэнт** *(ад лац. Adventus – прышэсце)* – час радаснага чакання нараджэння Збаўцы Езуса Хрыста. Гэта багаты сімволікай чатырохтыднёвы перыяд падрыхтоўкі да святаў Божага Нараджэння, які скіроўвае нашыя думкі на паглыбленае перажыванне канчатковага прыйсця Езуса Хрыста ў хвале. Кожная нядзеля Адвэнту прысвячаецца пэўнаму ўспаміну, якому адпавядаюць евангельскія чытанні падчас святой Імшы: першая нядзеля прысвечана будучаму прыйсцю Езуса Хрыста ў канцы часоў, другая і трэцяя – Яну Хрысціцелю, чацвёртая – падзеям, якія непасрэдна папярэднічалі нараджэнню Сына Божага і асаблівай ролі Панны Марыі ў таямніцы Богаўцелаўлення. З Адвэнтам у Касцёле таксама распачынаецца новы літургічны год.

**6 снежня – успамін святога Мікалая.**



Святы Мікалай жыў у III ст. у Малой Азіі. Быў біскупам Міры (сучасная Турцыя). Найбольшую славу святому прынеслі яго незвычайная дабрыня і гатоўнасць заўсёды прыйсці да дапамогу бліжнім. Паводле падання, аднойчы Мікалай пацiху падкінуў грошы тром маладым дзяўчынам, якіх збяднелы бацька хацеў аддаць у публічны дом, каб яны не памерлі з голаду. Дзякуючы дапамозе біскупа дзяўчынам удалося захаваць цнатлівасць і добра выйсці замуж. Мікалай вызваліў трох юнакоў, якіх гаспадар заезду, дзе тыя спыніліся, хацеў забіць і закатаць у бочку. Ён таксама дапамог уратавацца маракам, каторыя гінулі ў моры. Пасля смерці Мікалая яго рэлiквii захоўваліся ў Міры Лікійскай, пакуль у 1087 г. не былі выкрадзеныя італьянскімі купцамі і вывезеныя ў г. Бары на поўдні Італіі. Святы Мікалай з'яўляецца адным з найбольш папулярных святых на Захадзе, а на Усходзе яго ўшаноўваюць другім пасля Багародзіцы. Мікалая часта называюць Цудатворцам і лічаць вялікім сябрам дзяцей, апекуном шчаслівых сужэнстваў, вязняў і маракоў. У многіх каталіцкіх краінах існуе звычай у гэты дзень рабіць дзецям падарункі.

**9 снежня – урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята Беззаганнага Зачацця адзначалася на Усходзе ўжо ў VIII стагоддзі. У IX стагоддзі перайшло і на Захад. На беларускай зямлі гэтае свята пачало адзначацца з XIV стагоддзя. 8 снежня 1854 года Папа Пій IX сцісла акрэсліў і падаў праўду аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі як дагмат каталіцкай веры. Гэтая ўрачыстасць лічыцца абавязковай.

**25 снежня – урачыстасць Нараджэння Пана.**



Вігілійную вячэру, якая распачынаецца пасля дзялення аплаткай, называюць куццёю (ад назвы крупяной кашы – куцці, якая абавязкова павінна быць у гэты вечар на стале). На стол ставяць толькі посныя стравы. У гэты дзень з радасцю прымаюць нечаканых гасцей. Асаблівую атмасферу вечара ствараюць і калядкі (песні на Божае Нараджэнне), якія можна таксама спяваць усёй сям'ёй. Кульмінацыяй вечара становіцца святая Імша ў вігілію Божага Нараджэння. У само свята, 25 снежня, уся сям'я, родныя і блізкія таксама збіраюцца за супольным сталом. Але ж галоўнае – загадзя паклапаціцца пра стан сваёй душы і быць духоўна падрыхтаваным да святаў. З гэтай мэтай у перыяд Адвэнту Касцёл заахвочвае браць пастановы, у парафіях таксама адбываюцца адвэнтавыя рэкалекцыі з магчымасцю прыступіць да сакраманту споведзі.

**26 снежня – свята св. Стэфана, першамучаніка.**



Святы Стэфан быў адным з сямі памочнікаў Апосталаў у Ерусалімскім Касцёле. Паводле Дзеяў Апостальскіх, "поўны ласкі і моцы Духа Святога" ён абвяшчаў Добрую Навіну з мудрасцю, якой ніхто не мог супраціўляцца. Першы мучанік, сведчачы сваёй смерцю аб праўдзівасці пасланніцтва Хрыста і Яго навукі, ажыццявіў ідэал даскаланага наследавання Пана. Існуе вялікае падабенства паміж смерцю Пана Езуса і святога Стэфана: фальшывыя сведкі, смерць за горадам, адданне Езуса і Стэфана Богу Айцу, прабачэнне пераследавальнікам. Культ гэтага святога бярэ свой пачатак з IV стагоддзя.

**27 снежня – свята св. Яна, апостала і евангеліста.**

Рыбак, ён быў улюбёным вучнем Езуса. Стаў сведкам перамянення Пана і Яго малітвы ў Садзе Алiўным. Падчас Апошняй Вячэры туліўся да грудзей Збаўцы. Паміраючы на крыжы, Пан Езус аддаў яму ў апеку сваю Маці. Ён – адзіны з Апосталаў, хто памёр сваёй смерцю каля 100-га г. Ян з'яўляецца аўтарам Евангелля, трох Лістоў, а таксама Апакаліпсіса. Сваім Евангеллем святы Ян дапаўняе іншыя і найбольш глыбока перадае Божыя таямніцы. Ва Усходнім



Касцёле св. Яну надалі тытул Тэолага. У хрысціянскай іканаграфіі сімвалам св. Яна з'яўляецца арол. Адно з паданняў кажа, што св. апостал Ян выпіў атручанае віно, якое, аднак, не зашкодзіла. На ўспамін гэтага цуду ў касцёлах асвячаюць віно.

**28 снежня – свята святых Немаўлят-мучанікаў.**

Урачыстаць гэтая адзначаецца ў гонар нявінных дзяцей, забітых у Бэтлееме па загадзе Ірада, яўрэйскага караля. Здарэнне апісана ў Евангеллі (Мц 2, 13- 18).

**29 снежня – Дзень Святой Сям'і: Езуса, Марыі і Юзафа.**

Святая Сям'я з'яўляецца найдасканалейшай і прыкладам для нас, нашых сем'яў. Св. Юзаф – выдатны прыклад для кожнага бацькі: працавіты, разважлівы, заклапочаны домам. Найсвяцейшая Панна Марыя з'яўляецца ідэалам найлепшай маці. А Езус – непараўнальны Сын, Які, будучы Богам, быў паслухмяны Бацькам і шанаваў кожнае Іх слова.

*Падрыхтавала* **Вікторыя Колзун**



## На снежань прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6 снежня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Мікалай Ліпскі** *(Навалукамль)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*;
**7 снежня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;
**11 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*, **імяніны** адзначае **а. Вальдэмар Куява OFMconv** *(Удзела)*;
**14 снежня** – **імяніны** адзначае **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;
**16 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Віталій Галец** *(Ушачы)*;
**24 снежня** – **імяніны** адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;
**25 снежня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)* і **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*; **імяніны** адзначае **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;
**26 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Леанід Мозгель** *(Дзеркаўшчына)*.

*Падрыхтаваў* **Зміцер Лупач**

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298

# Біскуп Алег Буткевіч 2 лістапада маліўся за ахвяраў сталінскіх рэпрэсій і ІІ Сусветнай вайны

**Біскуп Алег Буткевіч 2 лістапада наведаў не толькі грамадскія могілкі ў Копцях каля Віцебска, дзе адправіў св. Імшу за памерлых. Ён таксама разам з іншымі каталіцкімі святарамі і вернікамі наведаў урочышча Хайсы, дзе ў 30-я гады мінулага стагоддзя НКВД праводзіў масавыя расстрэлы людзей.**

■ **кс. Віктар Місевіч**

Біскуп Алег падкрэсліў важнасць таго, што сёння неабходна не толькі памятаць пра ахвяраў, але і рабіць пэўныя высновы ў сваім жыцці, дбаючы пра сумленне і маральныя каштоўнасці. Пастыр Віцебскай дыяцэзіі падзякаваў спадару Яну Дзяржаўцаву, намаганнямі якога паўстаў народны мемарыял у Хайсах.

Пасля малітвы ва ўрочышчы Хайсы біскуп Алег разам з іншымі святарамі – прадстаўнікамі курыі – кс. Віктарам Місевічам, канцлерам дыяцэзіі, і кс. Аляксеем Ляшко, афіцыялам біскупскага Суда, наведаў месца расстрэлу людзей падчас ІІ Сусветнай вайны па вул. Цітова. Іерарх памаліўся каля мемарыяла і асвяціў навакольны пляц, дзе знайшлі спачын сто тысяч ахвяраў фашысцкага канцлагера, святой вадой.

Каталіцкі Касцёл у сваіх малітвах памятае пра ўсіх людзей, якія сталі ахвярамі крывавай расправы ці то з боку савецкага НКВД, ці то з боку нацыстаў. Наш святы абавязак – клапаціцца пра месцы пахаванняў і ахінаць малітвай бязвінных ахвяраў.

Вечны адпачынак дай ім, Пане…



# Каля Глыбокага памаліліся за ахвяраў таталітарных рэжымаў

**Святая Імша распачалася а 15 гадзіне ў чацвер, 7 лістапада, у мемарыяле Барок, дзе пахавана каля 27 тысячаў савецкіх ваеннапалонных і некалькі соцень італьянцаў. Усе яны загінулі ад рук нацыстаў.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

На малітву сабралася каля сотні вернікаў, было пяць святароў. Акрамя ксяндзоў з Глыбокага, на набажэнства прыбылі кс. Віталь Галец з Ушачаў і кс. Вячаслаў Барок з Расонаў.

Сёлета ў Барку вернікі сабраліся ўжо другі раз. Упершыню тут маліліся летась, таксама 7 лістапада. Гэта была ініцыятыва пробашча парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім ксяндза Мікалая Ціхановіча.

Кс. Вячаслаў, які ўзначаліў Эўхарыстыю, звярнуўся з гаміліяй да вернікаў. У сваім слове ён выказаў надзею, што гэта падзея стане добрай традыцыяй: у дзень, калі адзначаецца гадавіна кастрычніцкага перавароту, збірацца тут, у Барку, каб разам маліцца за ахвяраў таталітарных рэжымаў: як нацысцкага, так і камуністычнага. Адразу пасля вайны нацысцкая ідэалогія разам з яе прадстаўнікамі была асуджаная на Нюрнбергскім працэсе, а камунізм да гэтай пары не асуджаны.

І зараз мы ходзім па вуліцах, якія носяць імёны катаў, носім кветкі да іх помнікаў, дагэтуль дзяржава не пакаялася за грахі камунізму. Але святар спадзяецца, што рана ці позна гэта адбудзецца.

Напрыканцы Імшы кс. Мікалай Ціхановіч падзякаваў усім, хто на яе прыйшоў, і выказаў надзею, што мы і надалей будзем збірацца тут, каб маліцца за ахвяраў таталітарных рэжымаў. І на такія набажэнствы будзе збірацца ўсё больш вернікаў.



# Адвэнт

**Хутка распачнецца асаблівы перыяд літургічнага году – Адвэнт.**

**А што вы ведаеце пра літургічны перыяд, які папярэднічае Калядам? Праверце сябе, прайдзіце тэст!**

**1** Адвэнт – гэта…



**А.** Час падрыхтоўкі да Раства і Новага году

**Б.** Час радаснага чакання прыходу Збаўцы

**В.** Перыяд смутку і пакаяння, які папярэднічае Калядам

**2** На колькі частак падзяляецца Адвэнт?



**А.** на 2

**Б.** на 3

**В.** на 4

**3** Хто лічыцца “старазапаветным евангелістам” і прарокам Адвэнту?



**А.** Ieрамія

**Б.** Ісая

**В.** Ілля

**4** Што азначае "Маранатa", якое часта чуем падчас Адвэнту?




**А.** Хвала Табе, Пане!

**Б.** Клічу да Цябе, Божа!

**В.** Прыйдзі, о, Пане!

**5** Рараты – гэта…



**А.** Ранішняя святая Імша ў гонар Дзевы Марыі

**Б.** Песні ў гонар Дзевы Марыі падчас Адвэнту

**В.** Ружанцовыя набажэнствы падчас Адвэнту

**6** Хто з’яўляецца гэтым “голасам”, пра якога сказаў прарок Ісая:

“Голас таго, хто кліча ў пустыні:

“Падрыхтуйце дарогу Пану, простымі рабіце сцежкі Яму!”” (Мц 3, 1-3)



**А.** Езус Хрыстус

**Б.** Ян Хрысціцель

**В.** Эзэкііль

**7** Колькі свечак мае Адвэнтавы вянок?



**А.** 3

**Б.** 4

**В.** Без розніцы. Ніякай сімволікі ў гэтым няма

**8** Калі святар апранаецца ў ружовае літургічнае адзенне?



**А.** На Раратнюю святую Імшу

**Б.** У ІІІ Нядзелю Адвэнту (Gaudete)

**В.** Ніколі. Святары не апранаюцца ў ружовае

*Падрыхтавала*
**Вікторыя Колзун**

*Адказы на стар.12*



# Лайфхакі. Як чытаць Біблію?



“Две вещи паче всего мне необходимы в здешней жизни: без них невозможно было бы снести эту несчастную жизнь. Пища и свет: то и другое мне нужно, пока заключен я в телесной темнице. И дал Ты мне, убогому, пресвятое Тело Твое в подкрепление души и тела, и положил еси светильник ногам моим закон Твой (Пс. 118, 105). Без того и без другого не мог бы я жить воистину, ибо слово Божие – свет душе моей, и таинство Твое – хлеб животный”.
*(Фома Кемпийский “О подражании Христу”)*

**Вікторыя Колзун**

Напэўна, складана ўявіць чалавечае жыццё без ежы і святла. Без гэтых дзвюх рэчаў чалавек не можа доўга існаваць. Для хрысціяніна такой ежай з’яўляецца Эўхарыстыя, а святлом, якое ўказвае на жыццёвы шлях, – Божае Слова. Я хачу падзяліцца з вамі сведчаннем маёй гісторыі шукання аптымальнага метаду выкарыстання “Божай электрычнасці” – а менавіта практыкай чытання Божага Слова. Спадзяюся, што мае асабістыя лайфхакі* ў гэтай тэме будуць для кагосьці карыснымі. Таму дзялюся…

Шмат разоў у касцёле я чула словы пра Святое Пісанне: што гэта Кніга кніг, што толькі тут мы маем адказы на ўсе пытанні і што адсутнасць цікавасці да Божага Слова – гэта адсутнасць цікавасці да Бога і сталых адносінаў з Ім. Нельга сказаць, што Святое Пісанне мяне ніколі не цікавіла і што я яго ніколі не чытала. Я маю тэалагічную адукацыю, таму некалькі разоў даволіся перачытаць Біблію, перачытаць некаторыя каментары да Божага Слова, але дасканалага ведання мне гэта не давала – усё было як бы “на паверхні.” У нейкі момант майго жыцця Біблія для мяне стала значна большым, чым нейкі гістарычны або тэалагічны даведнік, які я час ад часу адкрывала, калі ўзнікалі пытанні.

Жаданне чытаць Біблію нарадзілася ўва мне пасля словаў аднаго святара, які, можна сказаць, мяне проста заінтрыгаваў. Добра памятаю гэтыя словы: “…Калі вы штодня нават без разумення пачняце чытаць Біблію, – асцярожна!.. Яна зменіць вашае жыццё!..” Інтрыга спрацавала, хацелася праверыць на сабе, і я вырашыла паспрабаваць. Вось тут і пачалася мая гісторыя доўгіх пошукаў аптымальнага варыянту чытання Божага Слова.

Першае, з чаго я пачала, – купіла сабе новую прыгожую Біблію. Яе вельмі зручна было браць з сабою, бо яна мела невялікі фармат і закрывалася на маланку, што, безумоўна, мяне вельмі цешыла. Знайшла ў інтэрнэце план чытання Біблii на год і раздрукавала яго (дарэчы, зараз у сецiве можна знайсцi вельмі шмат розных планаў чытання Біблii: і на год, і на некалькі гадоў, і тэматычны, і ў храналагічным парадку). Я была падрыхтаваная як добры баец: новая Біблія, план чытання, новы прыгожы аловак (каб выкрэсліваць прачытаныя дні)… Але так мяне хапіла на тры месяцы. І я закінула гэтую справу. Пачынала зноў чытаць – і зноў закідвала. Маёй галоўнай праблемай стала адсутнасць сталасці ў чытанні Божага Слова. Але нават за тры першыя месяцы штодзённага чытання Біблii нешта змянілася ўва мне, і я ўжо адчувала яе важнасць.

Цяжка пералічыць, колькі разоў я пачынала і спыняла чытанне. Пазней спрабавала чытаць штодня тэксты толькі з літургічнага календара касцёла, але і ў гэтым, на жаль, не было пастаянства.

Аднойчы ў размове са сваёй сяброўкай я прызналася, што маю такую праблему з чытаннем Божага Слова. Мы па-жаночы паскардзіліся самі сабе, абмеркавалі гэта і… вырашылі паспрабаваць чытаць Біблію разам. Як гэта адбывалася? Мы выбіралі сабе на нейкі канкрэтны перыяд адну ці дзве кнігі са Святога Пісання і штодня чыталі. Так, напрыклад, падчас Адвэнту разам мы прачыталі кнігу прарока Ісаі і Евангелле ад Лукі. І ў нашым выпадку гэта добра спрацавала! Падтрымка нават невялічкай супольнасці дадае шмат сілаў.

Яшчэ адным момантам, які, безумоўна, для нас спрацаваў, было тое, што кожную кнігу Біблii, якую мы чыталі разам, ахвяроўвалі ў адной пэўнай інтэнцыі, за якую супольна маліліся. Чытанне Біблii стала для нас спосабам малітвы. Канешне, былі і крызісы. Часам за дзень сапраўды бывае цяжка спыніцца і знайсці вольную хвілінку. Але калі ты ведаеш, што ёсць маленькая супольнасць, перад якой маеш абяцанні і адказнасць, сумленне ўжо не дазваляе прапусціць такі “асаблівы спосаб малітвы”.

> **“…Калі вы штодня нават без разумення пачняце чытаць Біблію, – асцярожна!.. Яна зменіць вашае жыццё!..”**

Супольнае чытанне Біблii разам з сяброўкай таксама моцна зблізіла нас у нашым духоўным сяброўстве. Нават калі мы знаходзімся ў розных гарадах, праз чытанне Божага Слова мы адчуваем еднасць.

Паступова, праз нейкі час мы пачалі заўважаць, што чытанне Божага Слова сапраўды нас моцна змяняе, змяняе нашыя адносіны з Богам. Разам з сяброўкай мы пачалі не толькі супольна чытаць Божае Слова, але і збірацца разам на малітву, а таксама дзяліцца Божым Словам, дзяліцца тымі момантамі з Пісання, якія нас асабліва закранулі. На маю думку, гэта вельмі добрая практыка, бо позірк розных людзей на адзін і той жа прадмет розны. Так і са Святым Пісаннем: іншы чалавек можа заўважыць тое, што не заўважаеш ты. Час ад часу да нас далучаюцца нашыя іншыя сяброўкі. Праз гэта мы ўзаемна ўзбагачаемся.

Калі нарадзілася ідэя напісаць гэтае сведчанне, мы разам з маёй сяброўкай думалі пра тое, што ўжо не ўяўляем свайго жыцця без штодзённага чытання Святога Пісання. Калі нават здараецца прапусціць адзін дзень, усё нібыта валіцца з рук, ты не адчуваеш супакою. Мы разам хацелі б падзяліцца нашым вопытам з тымі, хто, магчыма, як і мы калісьці, шукае для сябе “аптымальны варыянт чытання Божага слова”.



**А зараз некалькі больш канкрэтных парадаў для тых, хто хоча пачаць чытаць Біблію кожны дзень (АСЦЯРОЖНА! ЗМЯНЯЕ ЖЫЦЦЁ!):**

1. Знайдзіце ў сабе вострае жаданне пазнаць Бога праз Біблію.
2. Пошук аптымальнага для сябе варыянту чытання Біблii:

● Проста пачніце чытаць Біблію хоць два разы на тыдзень. Далей – болей!

● Можаце знайсці для сябе план чытання Біблii (пра яго я пісала вышэй. Знайдзіце план, які падыходзіць асабіста Вам).

● Маліцеся і прасіце Госпада, каб прасвятляў Вашае сэрца і Ваш розум на Святое Пісанне (можна маліцца так перад закрытай Бібліяй: “Госпадзе, адкрый маё сэрца, перш чым я адкрыю гэтую кнігу”).

● Чытайце, нават калі не разумееце (дарэчы, у інтэрнэце або ў касцельнай бібліятэцы можна знайсці шмат каментароў Айцоў Касцёла або экзэхетаў*, і тады разуменне Біблii стане значна лепшым).

● Не бойцеся папрасіць дапамогі святара або кампетэнтнага чалавека – законную сястру, катэхета, каб пры магчымасці растлумачылі Вам той урывак з Пісання, які выклікае ў Вас цяжкасці ў разуменні.

● Вазьміце сабе пастанову чытаць хаця б па адным раздзеле канкрэтнай кнігі з Біблii ў дзень. Няхай чытанне Біблii стане для Вас добрай звычкай!

● Калі не хапае вытрымкі і сталасці ў чытанні Божага Слова, паспрабуйце ўзяць канкрэтную інтэнцыю, у якой чытаеце пэўную кнігу з Біблii. Няхай чытанне Біблii стане таксама Вашай малітвай.

● Калі аднаму цяжка чытаць, папрасіце пра падтрымку сваіх блізкіх, родных, сяброў – стварыце супольнасць.

● Не спыняйцеся! Шукайце тыя лайфхакі, якія спрацуюць менавіта ў Вашым выпадку. Прасіце і Госпад абавязкова накіруе і блаславіць!

## Як часта Вы чытаеце Біблію?

Апытанне на сайце Catholicnews.by



- стараюся кожны дзень – 74 адказы;
- вельмі рэдка – 50 адказаў;
- 2-3 разы на тыдзень – 19 адказаў;
- не чытаю ўвогуле – 13 адказаў;
- чытаю толькі Новы Запавет – 9 адказаў.

**Усяго – 165 прагаласаваўшых.**

*лайфхакі – карысны, практычны савет або хітрасць, якая дапамагае сэканоміць час.

*экзэхеты (экзэхетыка) - раздзел тэалогii, у якім тлумачацца біблейскія тэксты. Вучэнне пра тлумачэнне тэкстаў, пераважна старажытных, першапачатковы сэнс якіх прыцемнены з прычыны іх даўніны або недастатковай захаванасці крыніцаў.

# Што не так са Швейцарыяй?

***"Хвала Хрысту! Нядаўна я жыла некалькі месяцаў у Швейцарыі і наведвала там каталіцкую парафію, беручы ўдзел у набажэнствах, а таксама прымала ўдзел у хросце дзіцяці. Даведалася, што там няма споведзі, а Камунію прымаюць усе людзі, якія знаходзяцца ў касцёле – святар кладзе Цела Хрыста ў рукі ўсім: і тым, хто жыве без шлюбу, і тым, хто апошні раз быў на споведзі ў дзяцінстве перад Першай Камуніяй. Растлумачце, калі ласка, чаму так адбываецца. Для мяне гэта вельмі важна.***
*Алена".*



– Хвала навекі, шаноўная Алена!

Перад тым, як даць больш дакладны адказ на Вашае пытанне, з упэўненасцю можна сказаць адно, што ацаніць цалкам становішча Касцёла ў пэўнай краіне, жывучы там толькі некалькі месяцаў і беручы ўдзел толькі ў набажэнствах, вельмі цяжка.

Пытанне святой споведзі з'яўляецца вельмі прыватным, пытаннем сумлення чалавека. Зусім не азначае, што чалавек, які жыве ў пэўнай парафіі, павінен хадзіць да споведзі толькі да пробашча ці вікарыя, якія працуюць у дадзенай парафіі. Кожны мае права свабодна выбраць сабе духоўнага айца альбо спаведніка з ліку святароў, якіх ведае.

Трэба адзначыць яшчэ адну рэч: не маючы дастатковай колькасці святароў, даволі часта людзі дамаўляюцца асабіста на споведзь на пэўны дзень і пэўную гадзіну. Да гэтага дадам яшчэ адну зацемку. Я, напрыклад, дзесяць гадоў жыў за мяжой, тры з якіх – якраз у Швейцарыі, і з упэўненасцю магу Вам засведчыць, што ў гэты час спавядаў шмат асобаў. Больш за тое, мне спадабалася адна рэч. Шмат людзей, якіх я спаткаў за мяжой, маюць свайго духоўнага айца, да якога дзесяцігоддзямі ходзяць да споведзі і вырашаюць духоўныя пытанні, і такім чынам маюць пэўны духоўны "шлях", чаго, на жаль, працуючы ў Беларусі, я амаль не сустракаў.

Споведзь даволі часта бывае чымсьці падобным да "выкідвання смецця", а не да спаткання з Міласэрным Айцом. Прыйшоў час, мы ідзём да споведзі, забываючы, што гэты сакрамант патрабуе вельмі добрай падрыхтоўкі, а не простага пералічвання грахоў альбо пералічвання таго, чаго мы не зрабілі.

Аднак таксама згаджаюся і з Вашай заўвагай. Трэба прызнаць, што духоўнае і сакрамантальнае жыццё пакрыху пачынае згасаць, і не толькі ў Еўропе. Вельмі хутка ідзе працэс секулярызацыі ў нашым свеце. У Пастырскім лісце на Адвэнт 2007 году Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч вельмі слушна адзначыў, што *"секулярызацыя праяўляецца найперш у рэлігійнай неадукаванасці і абыякавасці, ва ўзрастанні амаральнасці, у адсутнасці пачуцця граху, у маральным рэлятывізме, што адмаўляе непарушнасць маральных нормаў, у такім жыцці, як быццам Бог не існуе. Яго месца ўсё часцей і часцей займае імкненне да ўзбагачэння і задавальненняў. Але ж хлеба і відовішчаў (гэта значыць, задавальненняў) прагнулі таксама старажытныя рымляне. А дзе сёння тая вялікая і магутная Рымская імперыя?!*

*Жыццё без Бога вядзе да таго, што замест стварэння цывілізацыі любові і жыцця чалавецтва стварае цывілізацыю несправядлівасці, нянавісці і смерці. Прычым гаворка ідзе як пра фізічную смерць, бо цывілізаваны свет старэе, так і пра смерць духоўную, бо, жывучы амаральна, створаны паводле вобразу і падабенства Божага чалавек (пар. Быц. 1, 27) траціць сваё Боскае аблічча. Словам, сучасны чалавек заражаны бацылаю сур'ёзнай духоўнай хваробы. Гэта вірус бездухоўнасці з усімі наступствамі, якія ён цягне за сабою, што бачна няўзброеным вокам".*

З пытання, якое Вы, паважаная Алена, задалі, вынікае некалькі іншых, вельмі важных пытанняў, пытанняў сумлення чалавека. Перадусім гэта асабістае стаўленне да сакраманту споведзі, стаўленне да афіцыйнага навучання Касцёла і стаўленне да прыняцця Святой Камуніі. На жаль, таксама і ў Беларусі сярод вернікаў можна сустрэць абыякавасць да духоўнага і сакрамантальнага жыцця. Шмат людзей лічыць сябе "вернікамі" і ў той жа самы момант не прымае ўдзелу ў жыцці Касцёла і яго Сакрамантах. Або рэлігійнае жыццё заканчваецца на споведзі (раз на год), і гэта ў найлепшым выпадку. Шмат людзей знаходзіцца ў пазашлюбнай сувязі, жывучы ў так званым грамадзянскім шлюбе, часам нават без роспісу ў ЗАГСе, і даволі спакойна прыступае да Святых Сакрамантаў. З упэўненасцю можна сцвердзіць, што сумленне такіх людзей мае вельмі "добры сон". Тут хачу прыгадаць размову аднаго манаха са сваімі духоўнымі дзецьмі.

*Аднойчы стары манах спытаў у сваіх духоўных дзяцей: "Хто растлумачыць мне, што азначае: малітва будзе залічана як грэх?" – "Напэўна, няправільна маліўся", – быў адказ. "Не, правільна маліўся", – адказаў старац. "Напэўна, няшчыра маліўся". – "Не, маліўся шчыра". – "Напэўна, няўважліва, маліўся". – "Не, не гэта. Зараз я вам растлумачу", – сказаў старац. У гэты момант да яго падышла адна жанчына і папрасіла пра благаславенне. Старац папрасіў яе нешта зрабіць, а яна адказала, што зараз не можа, а потым паглядзіць, ці будзе мець час. "Зараз яна пойдзе, і на працягу пяці гадзін будзе маліцца, – сказаў старац. Але як Бог пачуе яе малітву, калі яна не дапамагла таму, хто прасіў яе? Калі вы не выконваеце Божых запаведзяў, не турбуйце Бога шматлікімі малітвамі, Ён іх не пачуе, а ваша малітва будзе залічана вам як грэх. Добрыя справы адчыняюць дзверы ў неба. Пакора ўвядзе вас туды, а любоў пакажа Бога. Калі з малітвы не вынікаюць добрыя справы, то такая малітва мёртвая. Бог не прымае пустых слоў, Бог любіць справы. Добрыя справы – гэта і ёсць любоў. Толькі па справах можна пазнаць сапраўднага хрысціяніна".*

Мы добра ведаем, што ў Каталіцкім Касцёле існуе сем Святых Сакрамантаў (Хрост, Канфірмацыя, Эўхарыстыя, Пакаянне, Намашчэнне хворых, Пасвячэнне і Сужэнства). Сакраманты Касцёла з'яўляюцца плёнам збаўчай ахвяры Езуса на крыжы. Як казаў св. Тамаш Аквінскі, "усе сакраманты скіраваныя да Эўхарыстыі "як да сваёй канчатковай мэты". Калі які-небудзь вернік Каталіцкага Касцёла мае сумненні адносна аднаго з сямі сакрамантаў альбо адкідвае хаця б адзін з сакрамантаў, то не мае права называць сябе католікам.

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла (Кампендый) ясна кажа, калі, як і пры якіх умовах належыць прыступаць да сакрамантаў – у стане ласкі і прымаць святую Камунію. *"Вернікам, якія ўдзельнічаюць у святой Імшы, Касцёл рэкамендуе таксама прымаць з належнай падрыхтоўкай святую Камунію, прадпісваючы рабіць гэта прынамсі на Пасху"* (нумар 290). У нумары 291 задаецца наступнае пытанне: *"Што патрабуецца для прыняцця святой Камуніі? Каб прыняць святую Камунію, неабходна быць цалкам далучаным да каталіцкага Касцёла і быць у стане ласкі, гэта значыць, не мець на сумленні смяротнага граху. Той, хто ўсведамляе, што ўчыніў цяжкі грэх, павінен прыступіць да сакраманту паяднання перад тым, як будзе прымаць святую Камунію. Важнымі з'яўляюцца таксама дух засяроджанасці і малітвы, захаванне прадпісанага Касцёлам посту і пастаў цела (жэсты, адзенне), што з'яўляецца знакам павагі да Хрыста".*

Мы бачым, што для прыняцця святой Камуніі неабходна *"быць у стане ласкі, гэта значыць, не мець на сумленні смяротнага граху"*, а гэта значыць, быць пасля Споведзі.

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла ў нумарах 1854-1864 акрэслівае паняцце смяротнага граху. Смяротны грэх нішчыць любоў у чалавечым сэрцы цяжкім парушэннем Божага закону, а таксама адварочвае чалавека ад Бога як канчатковай мэты і дабра, ставячы на месца Бога тое, што ніжэй па ўзроўні за Самога Бога.

Грэх лічыцца смяротным, калі выяўляюцца тры ўмовы адначасова: сур'ёзнасць матэрыі, якая вызначаецца 10 запаведзямі, смяротны грэх патрабуе поўнай свядомасці (разумення таго, што тое, што я раблю, з'яўляецца грахом) і поўнай згоды на грэх. Вынікам смяротнага граху з'яўляецца страта любові і асвячальнай ласкі. Калі няма жалю і прабачэння, то гэты грэх становіцца прычынай вечнага асуджэння.

*З малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко**,*
*афіцыял*

## Дзякуючы езуітам мы выкарыстоўваем гіперспасылкі

Айцец Раберта Буза (1913-2011) нарадзіўся ў Вічэнцы (Італія). У 1928 годзе ён паступіў у семінарыю, а ў 1933-ым уступіў у Таварыства Езуса. Вывучаў філасофію ў Папскім Грыгарыянскім універсітэце ў Рыме, а ў 1949 годзе абараніў там сваю навуковую працу. Сфера яго навуковага інтарэсу – тэалогія св. Тамаша Аквінскага.


Айцец Раберта Буза

"Ведаць усё немагчыма. Галоўнае – ведаць, дзе знайсці патрэбную інфармацыю", – часта мудрыя настаўнікі паўтараюць сваім вучням. Здаецца, менавіта такой логікай кіраваўся а. Раберта. У рэшце рэшт ён стварыў вядомы "Index Thomisticus" – інструмент, які дазваляе шукаць неабходнае сярод вялікай колькасці прац св. Тамаша. "Index Thomisticus" – гэта 56 тамоў, амаль 60 000 старонак і 9 мільёнаў слоў. Раберта Буза працаваў над ім амаль 50 гадоў.

Айца Раберта яшчэ называюць "бацькам гіперспасылак". У 1949 годзе ён сустрэўся з Томасам Уотсанам, заснавальнікам IBM, і быў фундатарам яго праекта. У 1989 годзе "Index Thomisticus" з'явіўся на аптычных дысках CD-ROM. Святар меў адно пажаданне: тэксты павінны быць звязаны паміж сабой, каб можна было лёгка пераходзіць з аднаго на іншы. Томас Уотсан сказаў, што гэта немагчыма, але а. Раберта настойваў. Тут прыходзіць у галаву думка: тое, што здаецца немагчымым, патрабуе крыху больш намаганняў. Сёння мы проста націскаем на вылучаныя блакітныя словы ў тэксце, каб даведацца больш пра цікавую нам тэму альбо высветліць значэнне невядомага тэрміна ці слова і не ўяўляем, што можа быць інакш.

*Пераклад catholicnews.by*
*Паводле credo.pro*

## Хвала Хрысту!



*Чарговую гадавіну святарскага пасвячэння адзначыў наш **ксёндз Сяргей Сурыновіч**.*

*Ад усяго сэрца шчыра жадаем Вам, шаноўны ксёндз Сяргей, жыццёвай разважлівасці, Божай ласкі на кожны дзень, моцнага здароўя на доўгія гады, шмат сіл і цярпення, вытрымкі ў душпастырскай працы і здзяйснення ўсіх мараў! Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам, добры айча, у ажыццяўленні планаў, Маці Божая хай ахіне Вас сваёй апекай і прытуляе да свайго сэрца, анёл-ахоўнік няхай аберагае Вас ад бедаў, дадае сіл і жыццёвай мудрасці! Няхай будзе для Вас, ксёндз Сяргей, асабістай лесвіцай да Неба самааддане служэнне на карысць Каталіцкага Касцёла! Шчасці Вам, Божа!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Друі***

## Хвала Хрысту!



*6 снежня – імяніны ў нашага пробашча – **ксяндза Мікалая Ціхановіча**. Шчыра віншуем яго з гэтай нагоды!*

*Паважаны ксёндз Мікалай!*

*Жадаем Вам трывалай дапамогі Вашага нябеснага Заступніка, Божага благаслаўлення, шчодрых дароў Духа Святога, апекі Маці Божай, малітоўнай падтрымкі ад шчырых вернікаў, умацавання ў веры і святасці!*

***Парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Шаноўны ксёндз Генадзь Ляўкоў!



*Шчыра віншуем Вас з 40-ой гадавінай з Дня нараджэння! Ад усяго сэрца жадаем Вам, каб жыццёвы шлях быў доўгім і шчаслівым, каб здароўе ніколі не падводзіла, каб побач былі толькі добразычлівыя людзі! Няхай здзейсняцца Вашы патаемныя жаданні і памкненні, хай захаваецца ўсё добрае, што ёсць у Вашым жыцці, хай памнажаюцца імгненні радасці, любові і аптымізму! Зычым настойлівасці і цярпення ў вырашэнні штодзённых задач. Дзякуем Вам за адданую працу ў нашай парафіі, за ўсмешку, за добрыя словы, за шчырую малітву і за абвяшчэнне Божага слова.*

*Няхай міласэрны Езус, якога Вы трымаеце ў сваіх далонях, кожны дзень прытуляе Вас да свайго сэрца і заўсёды благаслаўляе на добрыя ўчынкі і прыгожыя ўзнёслыя думкі!*

***Жадаем здароўя і плёну ў працы,***
***Сілы на ніве Хрыстовай змагацца!***
***Верных сяброў, справядлівага лёсу,***
***Вернікаў шчырых, памкненняў узнёслых!***

***Удзячныя парафіяне дрысвяцкага касцёла св. Апосталаў Пятра і Паўла (Браслаўскі р-н)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання і вялікай удзячнасці нашаму былому пробашчу – **ксяндзу Алегу Півавару**, які 6 лістапада адзначыў Дзень нараджэння, а 12 лістапада – Дзень святарскага пасвячэння.*

*Шаноўны ксёндз Алег!*

*Сардэчна віншуем Вас і жадаем Божага благаслаўлення, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці ў працы на нялёгкай ніве святарства, добразычлівых людзей побач! Няхай Дух Святы адорвае сваім святлом кожны Ваш дзень, Езус няхай заўсёды будзе Вашым сябрам, а Маці Божая няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам і прытуляе да свайго сэрца з мацярынскай любоўю!*

*Мы дзякуем Пану Богу за дар Вашага жыцця і памятаем пра Вас ў сваіх малітвах!*

*Шчасці, Божа, Вашым бацькам за сыноў-святароў! Няхай добры Бог адорыць іх моцным здароўем, патрэбнымі ласкамі, супакоем, шчасцем, верай, надзеяй!*

***Данута Голубева,***
***ад імя ўсіх парафіян касцёла Св. Айца Піа ў Лёзне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Віншуем **ксяндза-пробашча Алега Півавара** з Днём нараджэння і чарговай гадавінай святарскага пасвячэння.*

*Паважаны ксёндз Алег!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, бадзёрасці і аптымізму, Божай падтрымкі ва ўсіх Вашых справах, плёну ў працы на доўгія гады святарскага служэння! Няхай Пан Бог заўсёды апякуецца Вашым жыццём, напаўняе яго радасцю і дабрынёй!*

***Вернікі з парафіі***
***Св. Яна Хрысціцеля ў Ваўкалаце***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*6 лістапада адзначыў свой Дзень нараджэння, а 12 лістапада і чарговую гадавіну святарскага пасвячэння **ксёндз-пробашч Алег Півавар**.*

*Мы шчыра ўдзячныя Пану Богу за тое, што ў нас працуе такі цудоўны святар, заўсёды адкрыты на людскія патрэбы! Мы вельмі шчаслівыя, што ў асобе ксяндза-пробашча маем адданага духоўніка, шчырага ў працы і ў малітве, які знаходзіць для кожнага добрае слова, вучыць быць сапраўднымі хрысціянамі. Мы, вернікі з вёскі Гарадзішча, нізка кланяемся ксяндзу Алегу за нястомную дапамогу, за ўпэўненасць у паспяховым заканчэнні будаўніцтва капліцы, якая была сёлета асвечана ў гонар святога Антонія Падуанскага.*

*Паважаны ксёндз-пробашч Алег! Жадаем Вам моцнага здароўя, добрага настрою і доўгіх гадоў жыцця! Жадаем і надалей не спыняцца на шляху Дабра і Ісціны. Няхай Усемагутны Бог заўсёды ідзе з Вамі і накіроўвае розум, эмоцыі і энергію на служэнне касцёлу і на карысць людзям!*

*Нашу сардэчную ўдзячнасць і павагу дасылаем і бацькам святара, Казіміру Іванавічу і Ірыне Васілеўне, за цудоўнага сына! Атуляем усіх нашай любоўю і малітвай!*

***Вернікі з в. Гарадзішча***
***(Ваўкалацкая парафія)***

## Паважаны кс. Славамір Самковіч!



*З нагоды 15-ай гадавіны святарскага пасвячэння дасылаем Вам шчырыя віншаванні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, нязгасным запалам у адданай паслузе на карысць Богу і людзям, Найсвяцейшая Маці хай атуліць сваім плашчом і цяплом свайго сэрца, а Святы Дух няхай асвеціць дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі! Няхай Усемагутны Бог пасылае добрых людзей на Вашым жыццёвым шляху!*

*Дзякуем за добрае сэрца, за малітву, за цярплівасць да нас, а таксама за Божае слова, якім Вы напаўняеце нашы душы!*

***Вернікі парафіі Божай Міласэрнасці***
***ў аг. Пагошча***

## Віншуем ксяндза Чэслава Куцмежа!



*13 лістапада адзначыў Дзень нараджэння **ксёндз Чэслаў Куцмеж** з Пастаўскай парафіі Антонія Падуанскага. Мы шчыра віншуем дасведчанага і мудрага, добрага і чулага святара! Мы ўдзячныя яму за глыбокія разважанні над Божым словам падчас святой Імшы, на сустрэчах чальцоў біблійнай групы, за дасканалую падрыхтоўку маладых пар да сакраманту сужэнства, за павучальных казанні, за цярплівасць і міласэрнасць пры наведванні хворых!*

*Жадаем шаноўнаму ксяндзу Чэславу моцы Духа Святога, апекі Маці Божай, шчодрых ласкаў ад Усявышняга!*

***Парафіяне***

## Хрысціянскі гумар



Два анёлы збіраюцца ў адпачынак.

– Ты як? – пытаецца адзін.

– Ох! Стаміўся жудасна! – адказвае другі. – Не паверыш, выматаўся так, што сіл няма! Праз кожныя паўхвіліны – ад Госпада да Зямлі, ад Зямлі да Госпада, туды-сюды, туды-сюды... А ты?

– Ды я, шчыра кажучы, і ў адпачынку не асабліва маю патрэбу. І так увесь дзень на воблаку сяджу, адпачываю. А ты кім працуеш, калі не сакрэт, што так даводзіцца матацца?

– Дык ... паштальёнам. Нашу Богу паведамленні.

– Вось як! І я паштальёнам! А ў цябе якія паведамленні?

– “Дай мне, Госпадзе!..” А ў цябе?

– Э-э! А ў мяне “Дзякую Табе, Госпадзе!”

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – А; 3 – Б; 4 – В; 5 – А; 6 – Б; 7 – Б; 8 – Б

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў)*, **Тэрэза Лешчык** *(Сарокі)*, **Соф’я Рагіня** *(Сарокі)*, **парафіяне з Ваўкалат**, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ангеліна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Яна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Ян Кіслы** *(Швакшты)*, **Мацкевіч С.А.** *(Ракуці)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Антаніна Дарашкевіч** *(Янкавічы)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Махальская Е.І.** *(Падсвілле)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Лук’янская В.В.** *(Пялікі)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Парфяновіч Т.** *(Браслаў)*, **Парфяновіч А.** *(Браслаў)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Ракуцкая Р.К.** *(Браслаў)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Валянціна Мурзенак** *(Паставы)*, **Эмілія Ермаловіч** *(Віцебск)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Лазучэнка Р.І.** *(Браслаў)*, **Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў)*, **Ганна Карніловіч** *(Глыбокае)*, **Часлава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Марыя Ткачонак** *(Мосар)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Антаніна Главацкіх** *(Івацэвічы)*, **Франц Павучонак** *(Сынадворцы)*, **Бэнедзікта Баранава** *(Двор Пліна)*, **Альдона Макоўская** *(Відзы)*, **парафіяне з Пастаў**, **Пашкевіч В.В.** *(Бігосава)*, **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Алена Ціннікава** *(Мінск)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Соф’я Чырвінская** *(Язні)*, **Марыя Талапіла** *(Зорка)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Сцепаніда Лупач** *(Заварaты)*, **Юзэфа Афанасенка** *(Полацк)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Лілія Казлоўская** *(Пагошча)*, **Ніна Шпак** *(Друйск)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’яновіч***
***вул. Савецкая,***
***1 211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***“Каталіцкага Весніка”***

# Святар Вацлаў Шуневіч – глыбачанін, які стане бласлаўлёным

**Супольнасць святароў св. Вінцэнта дэ Поля ў Бразіліі праінфармавала, што бразільская дыяцэзія Понта Гроса (штат Парана) звярнулася ў Ватыкан з просьбай распачаць працэс беатыфікацыі ксяндза Вацлава Шуневіча CM, вядомага як "ксёндз-урач".**

Кс. Вацлаў Шуневіч CM нарадзіўся 28 снежня 1892 года ў Глыбокім Віленскай губерні ў польскім шляхецкім родзе Шуневічаў, які з XVI стагоддзя жыў паміж Вільняй і Полацкам. Вацлаў быў сеемым, малодшым дзіцём Рамуальда Шуневіча і Паліны Цыбульскай.



У 1898 годзе сям'я Вацлава пераехала ў Смаленск, дзе ён скончыў гімназію. Пазней ён вучыўся ў Маскве, дзе ў 1917 г. атрымаў дыплом урача. Адразу пасля атрымання дыплома яго прызвалі ў царскую армію і накіравалі на мінскі фронт. Вацлаў працаваў урачом у бальніцы Чырвонага Крыжа ў Смаленску, а потым у дзяржаўнай бальніцы ў Варонежы. Пасля таго, як скончылася Першая сусветная вайна, Вацлаў пераехаў у Вільню, дзе з 1922 па 1926 гг. працаваў у педыятрычнай клініцы Універсітэта Стэфана Баторыя ў якасці ўрача-асістэнта.

23 красавіка 1927 года ў Кракаве Вацлаў уступае ў Кангрэгацыю Місіянераў святога Вінцэнта дэ Поля. 8 верасня 1930 года прымае святарскае пасвячэнне і ў тым самым годзе накіроўваецца ў Кітай, у Сінтаі (або Шунтэхфу) у правінцыі Хубэй, дзе польская арганізацыя Місіянераў святога Вінцэнта дэ Поля распачала місійную дзейнасць. Адразу пасля прыезду ў Кітай ён пачынае працаваць лекарам і выконваць місійную душпастырскую дзейнасць. Спачатку ён арганізаваў шпіталь на дзевятнаццаць ложкаў у Сінтаі, а праз некалькі гадоў у шпіталі налічвалася ўжо сто ложкаў. У радыусе 30-70 кіламетраў ад Сінтая кс. Вацлаў Шуневіч CM адкрывае і кіруе васямнаццаць клінікамі. Ён рэгулярна наведвае усе клінікі, адну за другой, ездзячы на ровары.

Дзякуючы ідэальнай арганізацыі кс. Вацлаў мог праводзіць 35 афтальмалагічных працэдур у дзень. Штогод у тых медыцынскіх і тэхнічных умовах ён асабіста праводзіў каля 800 аперацый па выдаленні катаракты. Згодна з запісамі, толькі ў 1934 г. ва ўсіх медыцынскіх установах, падпарадкаваных кс. Вацлаву, было праведзена больш за 154 000 афтальмалагічных кансультацый і працэдур.

У знак вялікай пашаны і прызнання кс. Вацлава Шуневіча CM прызначаюць генеральным дырэктарам усіх каталіцкіх бальніц на поўначы Кітая. Шпіталь у Сінтаі стаў месцам "паломніцтва" хворых з самых далёкіх куткоў краіны. Кітайскія афтальмолагі атрымлівалі адукацыю і набывалі вопыт пад кіраўніцтвам кс. Вацлава. Яго называлі Сюан Вейрэн – "мужчына са срэбнай барадой".

У 1938 годзе ў Пекіне ў галоўнай бальніцы каталіцкага ўніверсітэта на працягу ўсяго трох месяцаў кс. Вацлаў змог адкрыць аддзяленне афтальмалогіі. Са снежня 1946-га па люты 1949-га ён працаваў у французкім правінцыйным шпіталі сясцёр міласэрнасці ў Цяньцзіні, у французскім шпіталі ў Пекіне і яшчэ адначасова ў двух шпіталях у Шанхаі.



Праз рэвалюцыю і прыход да ўлады камуністычнага рэжыму кс. Вацлаў быў вымушаны прыпыніць сваю місійную і лекарскую дзейнасць. У 1949 годзе, як і ўсе польскія місіянеры, ён пакідае Кітай, але не вяртаецца ў камуністычную Польшчу. Праз Аўстралію ён накіроўваецца ў ЗША.

Як і іншыя польскія місіянеры св. Вінцэнта дэ Поля ў той час, кс. Вацлаў пераехаў у тагачасную польскую віцэ-правінцыю ў Юціцы. Спачатку жыў пры парафіі св. Арханёла Міхала ў Дэрбі, штат Канэктыкут, а пазней пераехаў у парафію св. Станіслава ў Нью-Хейвене, у тым самым штаце. У Нью-Хейвене знаходзіцца знакаміты Ельскі ўніверсітэт, дзе кс. Вацлаў распачаў навукова-дыдактычную працу на медыцынскім факультэце. Ён часта паўтараў, што навуковая праца – гэта толькі дадатак да місійнай і душпастырскай дзейнасці. І менавіта таму пасля некалькіх месяцаў лекцый ва ўніверсітэце ён вырашае ехаць туды, дзе лічыў сваю прысутнасць больш патрэбнай, – у Бразілію.

У студзені 1952 года кс. Вацлаў пераязджае ў Курыцібу (Бразілія), у штат Парана. Спачатку ён нясе душпастырскую паслугу ў Мафра, а потым пераязджае ў Іраці, дзе праслужыў сем гадоў у парафіі св. Міхала – да 16 кастрычніка 1963 года, да дня сваёй смерці. Несучы душпастырскую паслугу ў Іраці, ён прысвяціў сябе галоўным чынам сацыяльнаму служэнню, заснаваўшы там клініку і бібліятэку, а таксама займаўся медыцынай у шпіталі міласэрнасці св. Вінцэнта дэ Поля.

Да самай смерці кс. Вацлаў Шуневіч CM быў афтальмолагам-практыкам. Валодаў сямю мовамі. Акрамя польскай, ён размаўляў на рускай, лацінскай, мандарынскай, англійскай, французскай і партугальскай мовах.

Знакаміты афтальмолаг і вучоны, ён быў першы, хто правёў хірургічнае лячэнне астыгматызму рагавіцы і рэтынапатыі (паражэнне сятчаткі вока). Даследаванні, якія ён распачаў у Кітаі, пазней былі ім працягнутыя ў Ельскім універсітэце, а яшчэ пазней – у Мафра ў Бразіліі. Рукапісы з вынікамі гэтых даследаванняў былі надрукаваныя толькі ў 1952 годзе, аднак яны ніколі не выдаваліся пад імем ксяндза Вацлава. Нягледзячы на гэта, яго навуковыя дасягненні па-ранейшаму глыбока асэнсоўваюцца і і маюць прыцяг у медыцыне, таксама і ў Кітаі, дзе камуністычныя ўлады надалі імя ксяндза Шуневіча афтальмагічнай клініцы ў Сінтаі.

У 1968 годзе гарадская рада ў Іраці (Бразілія) ушанавала кс. Вацлава Шуневіча CM, назваўшы яго імем адну з вуліц і школу ў Віла Рыа-Баніта.

Пасля распачацця працэсу беатыфікацыі кандыдат становіцца Слугой Божым. Пасля ўважлівага вывучэння цудаў, жыцця і справаў Слугі Божага, Апостальская Сталіца можа абвясціць яго спачатку блаславёным, а потым і святым.

Будзем жа і мы маліцца, каб кс. Вацлаў Шуневіч CM як мага хутчэй стаў бласлаўлёным. А ў будучыні, калі гэта дазволіць Пан Бог, кс. Вацлаў мог бы стаць нябесным заступнікам афтальмолагаў на Віцебшчыне, а магчыма, і ва ўсёй Беларусі.

*Падрыхтаваў*
***кс. Аляксей Ляшко,***
*Афіцыял Біскупскага Суда*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |



# Католическая клиника в Индии спасает тысячи жизней в год

**Католическая церковная клиника в Индии, специализирующаяся на срочной помощи пострадавшим от змеиных укусов, спасает тысячи жизней в год, сообщает "Седмица" со ссылкой на catholicnewsagency.**

**Сергей Игнатов**, *sedmitza.ru*

В лесном штате Бихар на востоке Индии у границы с Непалом до сих пор от укусов ядовитых змей гибнет порядка 4,5 тысячи местных жителей в год. Когда в 1990-х годах монахини ордена Сёстры-Миссионерки Пресвятой Девы Марии Апостолов только-только прибыли в этот штат, чтобы обучать молодых девушек основам веры и жизни в Боге, они очень скоро осознали, что Господь направил их сюда ещё и с другой целью – спасать людей. Так и возникла медицинская клиника, специализирующаяся на лечении пострадавших от змеиных укусов.

"Когда мы только прибыли в эти места, у нас и в мыслях не было открывать клинику для лечения змеиных укусов, – поведала сестра Кресцентия Сан в интервью изданию CNA. – Однако когда мы узнали, как много местных жителей страдает, становится инвалидами и даже гибнет от укусов змей, мы отправили наших сестёр, уже имеющих начальное медицинское образование, на специальные курсы для освоения этой врачебной специальности". И вот теперь в жаркие летние дни сестры-миссионерки принимают до 40-50 пациентов в день в своей клинике, и благодаря своевременно вводимым сывороткам и уходу им удаётся спасти многие тысячи жизней ежегодно.

"В этих местах людей постоянно кусают ядовитые змеи – кобры, гадюки, в том числе гадюки Рассела, ленточные крайты и многие другие виды змей, – рассказала сестра Сан на симпозиуме "Женщины на передовой" (Women on the Frontlines) в Риме. Тематика симпозиума, организованного посольством США в Ватикане, была посвящена опасной работе сестёр-миссионерок различных католических монашеских орденов в целом ряде отдаленных уголков мира.

"Служительниц Божьих мы считаем нашими самыми надёжными, эффективными и активными партнёрами, смело действующими на переднем крае в самых удалённых и уязвимых общинах по всему миру, – подчеркнула в своём выступлении на симпозиуме Каллиста Гингрич (Callista Gingrich) посол США в Ватикане. – Они самоотверженно служат перемещенным и обездоленным людям, часто с риском для жизни, в таких удалённых уголках планеты, где правительственные службы нередко терпят неудачи и не справляются с бедствиями, и где могут помочь лишь гуманитарные организации".

Сестра Сан поведала, что поначалу работа в клинике оказалась для неё чрезвычайно тяжёлой морально и физически. "В первые три месяца моей службы в клинике я видела столько несчастий, страшных мук и смертей от змеиных укусов, что была буквально раздавлена, – вспоминает сестра Сан. – Мне было невыносимо тяжко, и тогда я подумала – быть может, в этом и состоит моя задача от Господа. Люди шли и шли, и постепенно я укрепилась душой, Господь вдохнул в меня мужество благодаря ежедневной молитве. Я просила Его дать мне смелость и силы делать эту работу для Него".

Помимо лечения, сёстры занимаются профилактикой и постоянным просвещением, разъясняя жителям окрестных деревень опасности тех или иных видов змей, способы защиты от укусов и меры первой помощи. "Проблема в том, что индусы поклоняются змеям, поэтому никогда не убивают их и не изгоняют из своих жилищ, даже когда те их кусают, – говорит сестра Сан. – Вот почему нам приходится в летнее время работать круглосуточно и без выходных".

Из-за страшной нищеты многие из нынешних и будущих пациентов живут в хижинах из бамбука и травы с земляными полами, куда в поисках прохлады, пищи и крова от дождя постоянно проникают ядовитые пресмыкающиеся и насекомые, особенно в летний сезон дождей. "У нас в историях болезни масса случаев, когда люди, просыпаясь утром, просто опускают ногу с кровати, и их тут же кусает ядовитая змея", – говорит Сан. Чтобы обезопасить себя на выходах по делам службы, сёстры-миссионерки даже держат несколько обученных собак, помогающих обнаруживать присутствие змей. "Я всегда очень боялась змей, – говорит сестра Сан. – Ещё во время моей службы в Бангалоре, когда я только готовилась к принятию монашества, мне приходилось встречать множество ядовитых змей, в том числе кобр. Именно там меня научили справляться с ними, и я даже истребила множество змей. Такой опыт очень пригодился мне после переезда в эти места".

Только за 2018 год Конгрегация Сестёр-Миссионерок Пресвятой Девы Марии Апостолов излечила более шести тысяч пациентов от змеиных укусов в своей медицинской клинике, действующей в селении Канти, штат Бихар. "Я верю, что Господь использует нас, его служителей, в качестве своих послушных орудий, и чудеса излечения происходят только потому, что Господь великой милостью Своей через нас исцеляет несчастных", – говорит сестра Сан.

## "Каталіцкі Веснік" прапануе гульню-самаклейку на Адвэнт для дзяцей

**Прапануем увазе нашых чытачоў дзіцячую гульню-самаклейку на Адвэнт. Яе ідэя ў тым, каб заахвоціць дзяцей да больш руплівага перажывання часу чакання Божага Нараджэння.**

Гульня выканана як мазаіка. Дзеткам неабходна запоўніць малюнак, наклейваючы каляровыя элементы на шаблон з контурамі малюнка.

Гульня-пазл на Адвэнт вельмі папулярная ў парафіях падчас раратаў, калі дзеці прыходзяць у касцёл і атрымліваюць ад сясцёр або святара яе элементы. Напрыканцы тыя, каму ўдалося сабраць увесь малюнак гульні, узнагароджваюцца падарункамі.

Але адвэнтавую гульню-самаклейку можна выкарыстаць і дома. Напрыклад, бацькі могуць патлумачыць дзецям неабходнасць зрабіць нейкі добры ўчынак: атрымаць добрую адзнаку ў школе, памыць посуд, выгуляць сабаку ці дапамагчы з урокамі брацішку або сястрычцы. За кожны добры ўчынак дзіця атрымлівае элемент-самаклейку і запаўняе гульню. Такім чынам, зрабіўшы добрыя ўчынкі на працягу Адвэнту і сабраўшы ўсе пазлы, дзеці атрымліваюць асалоду ад гульні, разумеюць патрэбу дабра і, безумоўна, могуць разлічваць на падарунак ад мамы і таты.

Гульня-самаклейка на Адвэнт памерам А4 распрацавана ў рэдакцыі "Каталіцкага Весніка". Мастачка – Вольга Будкіна з Глыбокага.

**Каб замовіць гульню-самаклейку можна:**

- Напісаць ліст у рэдакцыю на адрас:
  вул. Савецкая, 1,
  211793 г. Глыбокае,
  Віцебская вобласць.
- Патэлефанаваць па нумары +375 29 736 53 07 (з 9 да 18 гадзін, акрамя нядзелі).
- Напісаць нам на э-мэйл: katalickivesnik@gmail.com. У загалоўку ліста, калі ласка, пазначце тэму "Адвэнтавая гульня".
- Скласці замову праз суполку УКантакце.

**Кошт гульні-пазла – 1 рубель.** У камплект гульні ўваходзяць: шаблон з контурамі на цвёрдым картоне і каляровы малюнак-пазл на паперы-самаклейцы.

Гульня-самаклейка высылаецца накладзеным плацяжом. Пакупніку неабходна будзе аплаціць выдаткі па перасылцы.

**Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" ўсім жадае плённага Адвэнту!**



Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

У Касцёле распачынаецца новы літургічны перыяд – Адвэнт.

## Заданне № 1.




Унізе маеш цацкі пэўнага колеру, упішы ў кожную цацку сваю літару. Калі выканаеш заданне даведаешся, што такое Адвэнт.



Адказ:______________________________________________

## Заданне № 2.

Злучы па кропках і размалюй Раратнюю свечку, якая сімвалізуе Дзеву Марыю, якая ў змрочны час прыносіць Свету сапраўднае Святло – Езуса Хрыста.



## Заданне № 3.

Дзеці з ліхтарыкамі спяшаюцца на Раратнюю святую Імшу. Спадзяёмся, ты таксама заўсёды ўдзельнічаеш у Раратах у сваёй парафіі.

**Знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.**




## Заданне № 4.

6 снежня Касцёл успамінае святога Мікалая, які з'яўляецца апекуном усіх дзетак.

**Разгадай рэбус і ўспомні кім быў святы Мікалай.**



## Заданне № 5.

Святы Мікалай - добры сябра ўсіх дзетак. Яму будзе прыемна атрымаць ад цябе ліст.

**Напішы ліст святому Мікалаю.**




*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Конкурс на лагатып і гімн Дзён моладзі 2020 года ў дыяцэзіях Беларусі. Пераможцы паедуць у Лісабон на СДМ 2022

**Адказны за працу з моладдзю ў Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Юзаф Станеўскі абвяшчае конкурс на стварэнне агульнабеларускіх лагатыпу і гімну Сусветных дзён моладзі, якія ў 2020 годзе пройдуць на дыяцэзіяльным узроўні.**

**Любая моладзь, святары і кансэкраваныя асобы!**

Нядаўна ўсе мы пачулі спеў-заклік "Беларусь, Беларусь!", напісаны ксяндзом Тадэвушам Крыштопікам, выкананы і запісаны студэнтамі Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. Вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што гэтая песня ўжо стала шлягерам.

Спеў спадабаўся не толькі вернікам, але крануў сэрцы таксама тых, хто яшчэ знаходзіцца ў пошуках Бога.

***Дарагія сябры! З'яўленне такога спеву і яго поспех азначаюць, што Беларусь мае таленты!***

Гэта я меў на ўвазе, калі 1 лістапада заклікаў да ўдзелу ў конкурсе на лагатып і гімн 37-х Сусветных дзён моладзі, якія ў 2022 годзе пройдуць у сталіцы Партугаліі Лісабоне. Дзякую ўсім, хто падтрымаў гэтую ініцыятыву!

**Сёння я звяртаюся да вас з новай прапановай.**

***Гэтым разам абвяшчаецца конкурс на лагатып, графічную выяву (плакат) і гімн 35-х Сусветных дзён моладзі, якія будуць ладзіцца на дыяцэзіяльным узроўні ў 2020 годзе пад дэвізам: "Хлопча, кажу табе, устань!" (Лк 7, 14).***

**Удзельнічаць у конкурсе можа моладзь ад 16 да 35 гадоў.**

Супольная праца заўсёды прыносіць багаты плён, таму заклікаю да сумеснай працы падчас сустрэч і заняткаў па рэлігіі з вашымі катэхетамі.

Кірунак вашай працы падкажа эпізод з Евангелля паводле Лукі, у якім апісваецца, як Езус уваскрасіў памерлага юнака – адзінага сына ўдавы з горада Наін. Менавіта адсюль узятыя словы дэвізу СДМ: "Хлопча, кажу табе, устань!" (Лк 7, 14).

Натхненнем на стварэнне лагатыпу і гімну вам паслужыць таксама змест адгартацыі Папы Францішка "Хрыстус жыве", напісанай у форме ліста да вас, юнакоў і дзяўчат. Уваскрашэнне сына ўдавы мае перадусім духоўнае значэнне, і ў супастаўленні са зместам адгартацыі можа стаць ілюстрацыяй закліку Святога Айца, скіраванага ім да моладзі: устаць з камфортнай канапы, адарвацца ад манітора гаджэтаў і абудзіцца для актыўнага жыцця, у тым ліку духоўнага: "Кажу табе, устань!"

***Лагатып і графічная выява (плакат) павінны адлюстроўваць хрысціянскую тоеснасць, быць каляровымі. Яны павінны, між іншым, абавязкова ўключаць элементы традыцыйных нацыянальных колераў Беларусі. На выяве абавязкова мусіць быць Езус і юнак.***


Езус уваскрашае сына ўдавы

Падказкай для творчасці можа паслужыць графічная выява – сімвал 2020 Пастырскага года ў Касцёле ў Беларусі, створаны маладым салезіянскім святаром Артурам Ляшнеўскім SDB.

Што датычыцца гімна, то згаданы змест неабходна выказаць у словах, пакладзеных на музыку. Запісаць твор можна ў асабістым выкананні (сола) або ў выкананні музычнага гурту. Гімн павінен выклікаць радасць і быць моладзевым вызнаннем веры і даверу Хрысту, павінен заклікаць да вандроўкі жыццёвым шляхам следам за Езусам.

**Спрабуйце, дарагія сябры! Свае працы скіроўвайце да 7 снежня ўключна на адрас электроннай пошты: *sdm2020konkurs@gmail.com***

- Лагатып, графічная выява (плакат) прадстаўляецца ў лічбавым фармаце з апісаннем зместу.
- Гімн прадстаўляецца ў запісаным выглядзе, да якога прыкладаецца тэкст і ноты.

Конкурс будзе праводзіцца ў два этапы. На першым этапе будуць адабраныя



найлепшыя працы, якія пасля разгледзіць журы ў складзе пяці прадстаўнікоў ад дыяцэзій Касцёла ў Беларусі. Яны і вызначаць пераможцаў з улікам водгукаў саміх юнакоў і дзяўчат са сваіх дыяцэзій.

***Такім чынам, 35-я Сусветныя дні моладзі, што ладзяцца на дыяцэзіяльным узроўні, у дыяцэзіях у Беларусі пройдуць пад адным сімвалам і з адным гімнам, які вывучыць і будзе спяваць уся беларуская каталіцкая моладзь!***

Пераможцы конкурсу прадставяць Беларусь на 37-х Сусветных днях моладзі, якія ў 2022 годзе пройдуць у сталіцы Партугаліі Лісабоне.

**Ніхто з удзельнікаў не застанецца без падарунка!**

***Акрамя таго, дыяцэзія-пераможца набывае правa на правядзенне Нацыянальнага форуму маладых у 2020 годзе.***

Вялікая просьба да святароў і законных сясцёр, якія займаюцца душпастырствам моладзі, падтрымаць і заахвоціць нашу моладзь да актыўнага ўдзелу.

*Біскуп Юзаф Станеўскі,*
*Catholic.by*

## Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасылаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
Заснавальнік: мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
Выдавец: рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
Галоўны рэдактар: кс. Віктар Місевіч
Тэхнічны рэдактар: Дзмітрый Лупач
Мастацкі рэдактар: Леанід Юрык
Рэдактар сайта: Марына Сінкевіч
Карэктары: Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6894
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2700 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.11.2019 г. у 00.04
Юрыдычны адрас: 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
Адрас для карэспандэнцыі: 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь